

# ПАМЯТКА «ЯК ПАДРЫХТАВАЦЦА ДА ЧЫТАННЯ ПА РОЛЯХ»

1. Прачытайце твор.
2. Вызначце, колькі ў ім дзейных асоб.
3. Адзначце словы кожнага персанажа.
4. Падумайце, з якой інтанацыяй патрэбна чытаць словы кожнай дзейнай асобы.
5. Прачытайце размову, перадаючы пачуцці, настрой персанажаў.





***Аляксей Панцюк-Жукоўскі.*** Вясна ідзе



***Станіслаў Жукоўскі.*** Вясна

М. В. Жуковіч

# Літаратурнае чытанне

Вучэбны дапаможнік для 2 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 2

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2016

УДК 821.161.3.09(075.2=161.3)
ББК 83.3(4Беи)я71
Ж86

Р э ц э н з е н т ы:

дацэнт кафедры беларускага і рускага мовазнаўства факультэта пачатковай адукацыі ўстановы адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка», кандыдат педагагічных навук, дацэнт *В. І. Свірыдзенка*;

метадычнае аб'яднанне настаўнікаў пачатковых класаў дзяржаўнай установы адукацыі «Гімназія № 4 г. Мінска» (намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце *Л. А. Сафронава*)

Спіс выкарыстанай літаратуры змешчаны ў частцы 1.

## Умоўныя абазначэнні:

 — слоўнік;

 — пытанні і заданні да тэкстаў;

 — звярніце ўвагу;

 — давайце абмяркуем тэму разам;

 — папрацуйце ў пары, у групе;

 — пафантазіруйце.

ISBN 978-985-559-705-7 (ч. 2)
ISBN 978-985-559-703-3

# ПЯШЧОТНЫ СВЕТ СЯМ'І



**Мы пазнаёмімся** з творамі пра ўзаемаадносіны, клопат і павагу ў сям'і.

**Мы будзем вучыцца:**

- ❖ вызначаць персанажаў прачытаных твораў, выказваць свае адносіны да іх;
- ❖ тлумачыць учынкі дзейных асоб;
- ❖ падрабязна пераказваць змест прачытаных апавяданняў і казак.

**Мы навучымся:**

- ❖ выразна чытаць вершы, перадаваць іх настрой;
- ❖ разумець, у чым заключаецца асноўная думка прачытаных твораў.



**Талака́** — група людзей.
**Шчырава́ць** — старанна рабіць штонебудзь.
**Панава́ць** — мець уладу над кім- ці чым-небудзь.



Слова «сям'я» паходзіць ад слова «семя» (насенне, семка). Калі вашы бацькі стварылі сям'ю, то спачатку яна нагадвала маленькае насенне. Яго трэба было з любоўю і пяшчотай даглядаць, жыць у згодзе і клапаціцца адно аб адным. З часам семка пераўтвараецца ў моцны парастак, на якім зацвітаюць кветачкі — сыночкі і дачушкі.

## СЯМ'Я

*Васіль Жуковіч*

Матулька,
татуля,
бабулька,
дзядуля,
сястрычка,
і брат мой,
і я —
усіх нас сямёра,
у згодзе, без гора
жыве-пажывае сям'я.

У хаце й ля хаты
з нас кожны заняты;
як пчолы ці як мурашы,
сваёй талакою
на фоне спакою
шчыруем штодня́ ад душы́.





Спраўляючы святы,
мы песень багата
спяваем усёю сям'ёй.
Любоў тут пану́е.
Сямейку шануе
з нас кожны
ўсёю душой.



1. Які настрой выклікае гэты верш? Чаму?
2. З кім параўноўвае аўтар членаў сям'і ў час працы?
3. Для чаго ў творы ўжыты ласкавыя словы? Знайдзіце і прачытайце іх.
4. Якія радкі з верша адпавядаюць змешчаным побач малюнкам? Прачытайце.
5. Чаму гэту сям'ю можна назваць дружнай і шчаслівай?



Сям'я — гэта самыя родныя людзі, якія заўсёды разам з вамі, клапоцяцца пра вас, дапамагаюць, падтрымліваюць, радуюцца вашым поспехам.



Разгледзьце малюнак «Сямейнае дрэва». Адкажыце на пытанні.

1. Чые партрэты змешчаны ў кроне дрэва? На яго каранях?

2. З каго складаецца сям'я, у якой жывяце́ вы?
3. Як завуць вашых бацькоў, братоў і сясцёр, бабуль і дзядуль?
4. Кім і дзе яны працуюць? Чым любяць займацца дома ў вольны час?



Ужывайце ў сваіх зваротах да родных толькі ласкавыя словы: *мамачка, матулька, матулечка; татка, татачка; брацік, браток; сястрычка; бабулечка, бабулька; дзядуля, дзядулечка* і інш.

## Загадкі

Два браты, адзін з іх мой дзядзька. Хто другі?







Сядзіць дзіця на агародзе і гаворыць: «У мяне ёсць бацька, маці, а я ім не сын».

## МАМЕ

*Э́дзі Агняцве́т*

Калі б магла вясёлку з неба зняць,
Я падарыла б маме.
Каб з хмарак я магла дыван саткаць,
Я падарыла б маме!

Пралескі ўсіх лясоў і стужкі рэк
Я падарыла б маме.
І ласку і цяпло на доўгі век
Я падарыла б маме!

Святло бяроз і песеньку малой
Сініцы сінякрылай —
Хачу паднесці ўсё, што мне самой
Матуля падарыла.



1. Ці спадабаўся вам верш? Чаму?
2. Ад імя каго вядзецца апавяданне ў творы? Па якіх словах вы здагадаліся?
3. Што хоча падарыць дзяўчынка сваёй маме? Прачытайце адпаведныя радкі.
4. Якой паказана дачка ў вершы Эдзі Агняцвет?

**5.** Над чым паэтэса прымушае нас задумацца?
**6.** Вывучыце верш на памяць.



*Зінаіда Серабракова.*
Аўтапартрэт з дзвюма дочкамі



Уважліва разгледзьце карціну.
Адкажыце на пытанні.

1. Які настрой выклікае ў вас карціна?
2. Як выглядаюць на ёй мама і дочкі?
3. Чаму дзеці абдымаюць сваю матулю?



**Зара́начка** — ранішняя або вячэрняя зорка.

## САМАЯ ЛЕПШАЯ

*Уладзі́мір Кары́зна*

Весняй заранацкай свеціць,
Лашчыць,
Як звон ручая,
Самая, самая лепшая ў свеце
Мама мая.

Сонца парой залатою
Будзіць
У росных гаях,
Жаўранкаў просіць спяваць
Над зямлёю
Мама мая.

З ёй весялейшыя песні,
Радасць мілей
Удвая!
Самая, самая лепшая ў свеце
Мама мая.



1. Які настрой передаецца ў вершы?
2. Чаму паэт ужывае выразы: *весняй заранычкай свеціць; лашчыць, як звон ручая*? Як гэта характарызуе маму?
3. Як вы разумееце сэнс радкоў другога слупка?
4. Якія словы ў творы паўтараюцца? Для чаго аўтар ужывае паўторы?
5. У якіх радках выказана асноўная думка верша?



*Піно Дэні́*.
Карціна з серыі «Маці і дзіця»



Разгледзьце карціну Піно Дэні. Адкажыце на пытанні.

1. Хто адлюстраваны на карціне?
2. На фоне чаго мастак паказаў маці і дзіця?
3. Якіх колераў на карціне больш?
4. Якія думкі і пачуцці выклікаў у вас гэты твор мастацтва?



**Незнаро́к** — выпадкова, ненаўмысна.
**Знаро́к** — спецыяльна, насуперак чыйму-небудзь жаданню; назло.
**Шы́ба** — шкло, устаўленае ў аконную раму.
**Кара́скацца** — узбірацца з цяжкасцю.
**Ва́кса** — мазь для скуранога абутку.
**Паваксава́ць** — пачысціць скураны абутак ваксай.

## НЕЗНАРОК І ЗНАРОК

*Вісарыён Га́рбук*

Лужына яшчэ здалёк убачыла Юру і ўзрадавалася.

— Бяжы сюды, пагуляй са мной! — паклікала яна.

Юра з разгону пераскочыў цераз лужыну, толькі пырскі ва ўсе бакі паляцелі з-пад чаравікаў.

— Давай гуляць, хто вышэй падскочыць, — сказаў Юра.

Лужына, нібы дураслівае шчаня, адступала перад хлопчыкам, то хапала яго за

ногі, узлятала фантанам і абсыпа́ла дажджом. Нарэшце яна так раздурэлася, што абліла Юру з галавы да ног.

— Ай! — спужаўся хлопчык. — Што я цяпер буду рабіць?

— Бяжы да мяне! — паклікала Юру гліна, што ляжала непадалёку. — Мяне дождж размачыў, і ты налепіш сабе цацак.

Прысеў Юра перад глінаю і ўзяўся за работу. Вылепіў ракету, паставіў яе на пляцоўку для запуску. Побач выстраіліся самалёты і самазвалы. Вартаваць ракетадром даручыў кату Цімку і аўчарцы Сігналу, якіх вылепіў пасля.



Зірнуў Юра на свой касцюмчык, уздыхнуў і пабег па вуліцы.

Тут убачыў яго высокі плот і пачаў дражніцца:

— А ты не ведаеш, што я за спі́най хаваю?

— Падумаеш, — адказаў Юра, — узлезу на цябе і пагляджу.

— Не, не ўзлезеш. Я высокі.

Падбег Юра да плота і пачаў караскацца. Узабраўся, сеў, паглядзеў наўкол і сказаў:

— Хто перамог?

— Пабачым, як ты злезеш, — усміхнуўся плот.

— Магу нават саскочыць, — пахваліўся Юра.

— А я цябе не пушчу, — плот учапіўся сучком за Юркаву куртачку.

— А я ўсё роўна саскочыў, — адказаў Юра, апынуўшыся на зямлі.

Калі хлопчык сядзеў наверсе, яго ўбачылі каменьчыкі, насыпаныя каля хаты цёткі Дашы, і паклікалі да сябе:

— Нам так абрыдла ляжаць на адным месцы. Пагуляй з намі.

Падбег Юра да каменьчыкаў і пачаў падкідаць іх угору.

Усім было весела, і кожны каменьчык спяшаўся хутчэй трапіць у рукі да хлопчыка.

Раптам адзін, самы нецярплівы, вырваўся з пальцаў у Юры і паляцеў зусім не ў той бок. Юра і ахнуць не паспеў — дзын! Каменьчык разбіў шыбу ў акне цёткі Дашы і заляцеў у пакой.

Спалохаўся Юра, разгубіўся. Але тут яго выратавалі ногі. Яны самі — хлопчык і вокам не паспеў міргнуць — прынеслі Юру дадому.

— На каго ты падобны? — пляснула рукамі маці.

— Я незнарок, — адказаў Юра.

— Што ж ты цяпер будзеш рабіць? — спытала маці.

— Не ведаю.

— Хіба ты забыўся, чаму я цябе вучыла?



— Не: зрабіў дрэннае незнарок — папраў на добрае знарок.

— Ну дык бярыся за работу.

Юра зняў куртачку, зашыў яе, вымыў, павесіў сушыць, паваксаваў чаравікі, памыўся сам, пераапрануўся і моўчкі падышоў да маці.

— Вось і малайчына, сынок! — пахваліла маці. — Але чаму ты такі сумны?

— Эх, — уздыхнуў Юра, — так незнарок усё робіцца. Мама, я да цёткі Дашы павінен схадзіць. У яе шыба разбілася.



1. Хто хацеў пагуляць з Юрам на вуліцы? Назавіце іх.
2. Як да хлопчыка аднеслася лужына?
3. Ці можна назваць лужыну, гліну, плот і каменьчыкі злымі персанажамі казкі? Чаму?

4. Хто на самай справе быў вінаваты ў няшчасцях Юры?
5. У каго хлопчык знайшоў суцяшэнне і падтрымку?
6. Па чым вы заўважылі, што Юра ўсё-такі добры, паслухмяны і сумленны хлопчык?
7. У якім сказе выказана асноўная думка твора? Прачытайце гэты сказ.



1. Твор «Незнарок і знарок» падзяліце на сэнсавыя часткі згодна з прапанаваным планам.

П л а н

1. Лужына ўбачыла Юру і ўзрадавалася.
2. Паклікала хлопчыка гліна.
3. Убачыў Юру высокі плот і пачаў дражніцца.
4. Каменьчыкі таксама паклікалі хлопчыка да сябе.
5. Ногі прынеслі Юру дадому.
6. Сумны сын.

2. Падрабязна перакажыце адно аднаму змест казкі па плане.



**Се́ні** — памяшканне паміж жылой часткай дома і ганкам у вясковых хатах.
**Даліка́тны** — які патрабуе асцярожных адносін.

## АДНО ЯЕЧКА НА ДВАІХ

*Іван Муравейка*

У хлевушку́ закудахталі куры — гучна і ўрачыста.

— Знесліся, — зазначыла мама, якая ў сенцах на газавай пліце гатавала снеданне. — Сынок, прынясі два яечкі, я звару: адно — табе, другое — Верачцы.

Сяргей пабег у хлевушок, узяў з гнязда яечкі: адно — у левую руку, другое — у правую, у адной руцэ яны не змяшчаліся. Абодва — цёплыя і далікатныя. Назад Сяргейка не бег, а ішоў — павольна і асцярожна, каб не ўпасці. І неспадзявана — ой, бяда якая! — зачапіўся за нейкую галі́ну. Упаў, і адно яечка разбілася. Прызнацца, не разбілася, а Сяргейка яго раздушыў. Нават слёзы заблішчалі ў яго на

вачах. Але ўжо нічога не зробіш, яечка не адновіш.

Вінавата апусціўшы галаву, Сяргейка ўвайшоў у сенцы.

— Адно разбілася, — зару́мзаў ён, — але я не вінаваты... Нейкая галі́на...

Мама зусім не зазлавалася.

— Нічога, бывае, — супакоіла яна сынка́.

А Верачка, якая была на цэлага паўтара года меншая за браціка, зашчабятала насмешліва:

— Ага, ты ўжо сваё яечка з'еў, з'еў, з'еў!..



Як могуць развівацца падзеі далей?

Мама паклікала ўсіх да стала. Брацік і сястрычка звычайна сядзелі побач. На гэты раз Сяргейка адсунуўся як можна далей ад Верачкі, адвярнуўся ад яе — каб не бачыць, як тая будзе есці яечка. А яно ляжала ў сподачку адно і свяцілася, як маленькае сонейка. Сяргейку не ва́біла ні

каша рысавая з маслам, ні піражок з варэннем. Яму хацелася толькі яечка. Але папрасіць хоць трошкі ў Верачкі? Нізавошта! «Я ёй таксама калі-небудзь чагонебудзь не дам», — падумаў ён.

Верачка крадком глянула на брацікa, узяла яечка, разбіла лыжкай шкарлупіну. Падперла рукамі галаву, нібы вырашала нейкае важнае пытанне. Зноў кінула позірк на Сяргейку і разрэзала ачышчанае яечка на дзве частачкі. Адну паклала на брацікаву талерку.

«Я сваё яечка ўжо з’еў», — ледзь не сказаў Сяргейка, але прамаўчаў. Можа,



таму, што яму сёння так хацелася пакаштаваць яечка, а можа, з-за іншай прычыны.

Сяргейку зрабілася радасна і лёгка — ён падсунуўся бліжэй да Верачкі.

— А чаму ты мне большую палавіну яечка паклала?

— А таму, што ты большы, — адказала Верачка.



1. Што вы даведаліся пра Сяргейку і Верачку?
2. Чаму Сяргейка прызнаўся, што адно яйка ён раздушыў? Як гэта яго характарызуе?
3. Як вы разумееце сэнс сказа «А яно ляжала ў сподачку адно і свяцілася, як маленькае сонейка»?
4. Як вы думаеце, чаму Верачка падзяліла яйка на дзве часткі і адну аддала брацiку?
5. Чаму вучыць нас гэты твор?
6. Падрыхтуйце выразнае чытанне апавядання. Паспрабуйце перадаць спачуванне хлопчыку, павагу і добразычлівасць персанажаў у размове паміж сабою.



**Крамзу́лькі** — крывулькі, абы-як намаляваныя лініі і фігуры.

## РАЗУМНЫ АЛОВАК

*Даір Слаўковіч*

Тата купіў тры алоўкі. Прыгожыя. Усе тры аднолькавыя.

— Яны — тры браты, — сказаў тата. — Але ніводзін пакуль маляваць не ўмее.

Мы іх завострым і паспрабуем навучыць.

Завастрыў тата алоўкі і раздаў: адзін — Ірынцы, другі — Веранічцы, а трэці — сабе паклаў.

Узялі паперу, селі за стол.

Ірынчын аловак дом намаляваў і дым з коміна. Татаў — зайчыка і лес. А Вераніччын — нічога. Так, рысачкі і крамзулькі розныя.

— Што гэта твой аловак не хоча старацца? — пытаецца тата ў меншай дачкі.

— І сама не ведаю, — адказвае тая.



— Не здольны, відаць, трапіўся, — сказала Ірынка.

— Трэба выкінуць і купіць новы, — парашыла малая.

— Э не. Так нельга. Ён жа не вінаваты. Яго проста яшчэ не навучылі.

І пачалі тата з Веранічкай удваіх алоўку паказваць. Веранічка трымае аловак, а тата — яе руку. І разам выводзяць.

Аловак урэшце зразумеў, чаго ад яго хочуць, і старацца пачаў. Цяпер вучыла ўжо толькі адна дзяўчынка, без таты.

З гэтага дня кожны вечар яны займаліся вучобай. І з кожным днём атрымлівалася лепш і лепш.

А неяк Веранічка сказала:

— Паглядзі, тата, які разумны мой аловак: ужо ўмее мячык і грыбок маляваць. А хутка і елачку намалюе.



1. Якія асаблівасці характару ў бацькі Ірынкі і Веранічкі вы заўважылі?
2. Чаму ў Ірынкі і таты малюнкі атрымаліся, а ў Веранічкі не?
3. Пра каго ідзе гаворка ў наступных радках: «Аловак урэшце зразумеў, чаго ад яго хочуць, і стараецца пачаў»?
4. Дзякуючы чаму Веранічка з кожным днём малявала ўсё лепш і лепш?
5. Каго ўхваляе Даір Слаўковіч у сваім апавяданні «Разумны аловак»? Чаму?

## Загадка

Тонкі ён, драўляны,
Ярка фарбаваны.
І заўжды, паверце,
Піша толькі сэрцам.




*Міхась Пазнякоў.*



(Некалькі дзён) **за́пар** — адзін за адным, без пропуску.

## НЕЗВЫЧАЙНЫ ДЫКТАНТ

*Васіль Ткачоў*

Алесь дрэнна піша дыктанты: памылка на памылцы. Каб хлопчык трохі падцягнуўся, настаўніца параіла часцей пісаць дыктанты дома.

Вечарам Алесь прынёс тату падручнік і сказаў:

— Дыктуй, тата. Буду вучыцца пісаць без памылак.

Тата ахвотна дыктуе, Алесь старанна піша. І так некалькі дзён запар. А потым тата адклаў падручнік убок.

— Садзіся, сынок, пішы, — сказаў ён. — Сёння буду дыктаваць на памяць.

Алесь выводзіць сказ за сказам: «На двары адліга. Радасна свеціць сонейка. На вуліцы з’явіліся лужыны. Я не магу прайсці міма, абавязкова ўлезу ў ваду...»



Алесь глянуў на тату:

— Ты пра каго гэта так?

— Пішы, сынок, пішы...

Алесь працягвае пісаць: «Прыйдзеш дадому ўвесь брудны, мокры — вось маці і работа. А яна хацела адпачыць...»

— Дрэнны дыктант ты, тата, прыдумаў, — пачырванеў да вушэй Алесь.

— Нічога я не прыдумаў, — сказаў тата.

Вечарам, зрабіўшы ўрокі, Алесь вырашыў, што заўтра ён напіша зусім іншы дыктант.



1. Чаму Алесь пачаў пісаць дыктанты дома?
2. З-за чаго аднойчы бацька вырашыў дыктаваць сыну свой тэкст?
3. Чаму Алесю не спадабаўся бацькаў дыктант?
4. Як вы разумееце сэнс апошняга сказа твора?
5. Чаму вучыць нас Васіль Ткачоў сваім апавяданнем?
6. Падрабязна перакажыце змест твора «Незвычайны дыктант».



Як трэба паводзіць сябе, каб настрой таты і мамы не псаваўся з-за вас?



Каб ваша сям'я была моцнай і дружнай, трэба дапамагаць і даваряць адно аднаму, абараняць адно аднаго; не памятаць доўга крыўды, а ўмець прабачаць; нельга зайздросціць; трэба быць адданым, памяркоўным, стрыманым, сумленным...



(Пад сонейкам) **ве́снім** — вясеннім.
**Чу́йнае** (сэрца) — чу́лае.
**Няўры́мслівы** — які не можа супакоіцца; непаседлівы.

## БАБУЛІНА ПЕСНЯ

*Ніна Галіноўская*

Бабуля спявала
Вячэрнюю песню:
— Расці, мой унучак,
Пад сонейкам веснім,
Пад сонейкам летнім,
Асеннім, зімовым,
Расці ты разумным,
Прыгожым, здаровым.
Хай сэрца тваё
Будзе добрым і чуйным.
Яшчэ, мой няўрымслівы,
Вельмі хачу я,
Каб гэтую песню
І родны парог
Нідзе і ніколі
Забыць ты не змог.



1. Да каго бабуля звяртаецца ў калыханцы?
2. Што яна жадае свайму ўнуку? Прачытайце адпаведныя радкі. Як гэта яе характарызуе?
3. Чаму трэба памятаць пра бабуліну песню і родны парог?




*Ганна Сілівончык.*
Забаўлянкі для Янкі



Разгледзьце карціну.
Адкажыце на пытанні.

1. Хто адлюстраваны на карціне?
2. Аб чым сведчыць адзенне жанчыны?
3. Які ў яе настрой? Чаму?
4. Што за рэчы знаходзяцца побач з жанчынай? Для чаго іх выкарыстоўвалі людзі ў даўнія часы?
5. Які настрой выклікала ў вас гэта карціна? Чаму?



**Пухлі́нка-разрыў** (на асфальце) — уздутае і разарванае месца.
**Па́растак** — сцябло расліны ў самым пачатку свайго развіцця.

## ХТО САМЫ МОЦНЫ?

*Яўген Радкевіч*

— Я самы моцны на свеце! — сказаў Стасік дзеду.

Дзед недаверліва зірнуў на ўнука.

— Няўжо? Значыць, ты мацнейшы за тату?

— Ага.

— І за мяне?

— Ага.

— І нават за слана?

— І за слана!..

Дзед толькі пакруціў галавой і нічога не сказаў. А Стасік, каб паказаць, які ён моцны, падняў вялікі камень і перанёс яго ад ганка да плота.

— Канечне, ты дужы хлопчык, — сказаў дзед, але ўсё ж не самы моцны на свеце.



— Не, я самы моцны, — стаяў на сваім Стасік і нават пакрыўдзіўся на дзеда: чаму той не верыць яму.

— Што яшчэ табе падняць? — спытаў у дзеда.

Дзед усміхнуўся:

— Падымі асфальт.

— Асфальт? Як жа я падніму яго, калі ён у зямлю ўрос. Гэтага ніхто не зробіць.

— Тады хадзі сюды.

І дзед падвёў Стасіка да пухлінкі — разрыву на асфальце.

Прыгледзеўся Стасік, а гэта, аказваецца, зялёны парастак прабіў асфальт і цягнецца ўгору, да сонца.

— Бачыш, — сказаў дзед, — кволы парастак зрабіў тое, што не змог ты, дужы хлопчык.

Стасік, схіліўшыся, доўга дзівіўся на парастак. І ўжо не настойваў, што ён самы моцны на свеце.




1. Назавіце дзейных асоб твора.
2. Чым выхваляўся ўнук перад дзедам?
3. Ці ўдалося Стасіку пераканаць дзядулю ў сваёй сіле? Чаму?
4. Каго з персанажаў твора можна назваць вопытным, назіральным і надзеленым мудрасцю? Чаму?
5. Які ўрок даў дзед свайму ўнуку?
6. Што, на вашу думку, з'яўляецца самым моцным на свеце? Чаму?
7. Успомніце прыказкі, якія адпавядаюць сэнсу гэтага твора.
8. Падрыхтуйце выразнае чытанне апавядання па ролях.



Уважліва разгледзьце карціну. Адкажыце на пытанні.

1. Якія заняткі адлюстраваны на карціне?
2. Якія заняткі выконваюць разам усе члены вашай сям'і?



*Аркадзь Пластаў*. Сенакос

3. Якія святы адзначаюцца ў вашай сям'і?
4. Разгледзьце сямейны фотаальбом. Чаму варта складаць яго?





Збіраць фотаздымкі, складаць сямейныя альбомы — гэта вельмі важная справа. Фотаздымкі дапамагаюць нам захоўваць успаміны пра дарагіх людзей, падзеі ў сямейным жыцці. Нездарма чалавек, калі надоўга пакідае свой дом, бярэ з сабою толькі самыя каштоўныя рэчы, і сярод іх ёсць фотаздымкі самых блізкіх яму членаў сям'і.

## Правер свае дасягненні па тэме «Пяшчотны свет сям'і»

***Ведаю...***

1. Хто з'яўляецца аўтарам верша «Маме»?
2. Кім напісана апавяданне «Адно яечка на дваіх»?
3. З якіх твораў гэтыя радкі?

а) «З ёй весялейшыя песні,
Радасць мілей
Удвая!
Самая, самая лепшая ў свеце
Мама мая»;

б) «Вельмі хачу я,
Каб гэтую песню
І родны парог
Нідзе і ніколі
Забыць ты не змог»;

в) «І пачалі тата з Веранічкай удваіх алоўку паказваць. Веранічка трымае аловак, а тата — яе руку. І разам выводзяць»;

г) «— Бачыш, — сказаў дзед, — кволы парастак зрабіў тое, што не змог ты, дужы хлопчык».

4. З якой казкі адлюстраваны персанажы? Каго не намаляваў мастак? Назавіце аўтара казкі.







### *Разумею, магу растлумачыць...*

1. З якой мэтай у вершы «Сям'я» Васіля Жуковіча ўжываецца шмат ласкавых слоў?

2. Чаму Васіль Ткачоў назваў сваё апавяданне «Незвычайны дыктант»?

3. У якім творы сцвярджаецца думка, што дабрыня ў дзяцей і дружба паміж імі залежаць ад выхавання ў сям'і?

4. Як вы разумееце сэнс назвы апавядання Івана Муравейкі «Адно яечка на дваіх»?

### *Умею...*

1. Выразна прачытаць на памяць верш Эдзі Агняцвет «Маме».

2. Аднавіць прыказкі па дадзеным пачатку.

- *Пры сонейку цёпла...*
- *Хто бацькоў не слухае...*
- *З бабулінага слова...*

...толькі неразумны ўнучак засмяецца.
...пры мамцы добра.
...той у пальцы дзьмухае.

# УРОКІ ПРАЦАВІТАСЦІ



**Мы пазнаёмімся** з творамі на тэму працы і адносін да працавітых людзей.

**Мы будзем вучыцца:**

- тлумачыць учынкі дзейных асоб, выказваць свае адносіны да іх;
- падрабязна пераказваць змест прачытаных твораў.

**Мы навучымся:**

- выразна чытаць вершы, перадаваць іх настрой;
- разумець, у чым заключаецца асноўная думка прачытаных твораў.



**Тапча́н** — шырокая лаўка, звычайна са спінкай, для сядзення або сну.
**Бо́ндар** — майстар па вырабе драўлянага посуду (бочак).
**Длу́баць** (асіну) — выдзёўбваць.
**Ла́пці** — сялянскі абутак, плецены з лыка, бярозы або вяровак.
**Мацава́ць скурато́м** — умацоўваць кавалкамі скуры.

## ГАСПАДАРКА

*Змітрок Бядуля*



У куце сядзіць мядзведзь,
Хустку вышывае,
А лісічка-невялічка
Хатку прыбірае.
А каток пячэ аладкі,
Маслам залівае,
На тапчане мышанятка
Есці памагае.
А сабачка ўе вяроўкі —
Пугу для хлапчыны,
Дзяцел-бондар на начоўкі
Длубае асіну.

Казёл лапці папраўляе,
Скуратом мацуе,
На акенцы павучочак
Кросенцы рыхтуе.





1. Якімі справамі заняты жыхары хаткі? Падмацуйце адказ адпаведнымі радкамі з твора. Як гэта іх характарызуе?
2. Хто з насельнікаў хаткі не працуе?
3. Чаму аўтар называе асобных жывёл ласкава: *лісічка, каток, мышанятка, сабачка, павучочак*?
4. Якую асноўную думку хацеў выказаць паэт у гэтым вершы?



Адкажыце на пытанне.

Якія з пералічаных у вершы «Гаспадарка» заняткаў можна аднесці да народных рамёстваў беларусаў?



Беларускімі народнымі рамёствамі з'яўляюцца ткацтва, ганчарства, кавальства, дрэваапрацоўка, саломапляценне, вышыўка.



**Аржано́е** (поле) — жытнёвае.

## ХЛЕБНАЯ СКАРЫНКА

*Авяр'ян Дзеружынскі*



Пахне
Хлебная скарынка
Цёплым ветрыкам,
Хваінкай,
Летнім дожджыкам
Грыбным,
Лугам,
Полем аржаным,
І асенняй пазалотай,
Ды натхнёнаю
Работай.



1. Чым пахне хлебная скарынка? Зачытайце адпаведныя радкі.
2. Чаму хлеб пахне *цёплым ветрыкам, летнім дожджыкам, полем аржаным, асенняй пазалотай*?
3. Дзякуючы чаму з'яўляецца на стале хлеб?



**Ру́пны** — клапатлівы, старанны, які імкнецца зрабіць як мага больш і лепш. **Ні́ва** — апрацаванае пад сяўбу або засеянае поле.

## ХЛЕБ

*Міхась Пазнякоў*

Ён — духмяны,
Апетытны.
Кожны дзень
Яго дамоў
Мы нясём
З універсама —
Хлеб,
Аснову ўсіх асноў.

Зернем нівы засявалі
Хлебаробы ў вясні час.
Сэрцам шчодрым саграваді,
Клапаціліся пра нас.

Рупнай працай,
Цёплым ветрам
І расою пахне хлеб.

Нібы сонейка над светам,
Ён штодзённа
На стале.



1. Чаму хлеб лічаць асновай усіх асноў?
2. Як вы разумееце сэнс выразу *«сэрцам шчодрым сагравалі, клапаціліся пра нас»*?
3. Чым пахне хлеб? Прачытайце адпаведныя радкі.
4. З чым паэт параўноўвае хлеб?
5. Якая асноўная думка гэтага верша?



Якой тэмай аб'яднаны вершы «Хлебная скарынка» і «Хлеб»?

## Прыказкі

Без хлеба і мёдам сыты не будзеш.

Калі хочаш хлеб мецць, то трэба зямельку глядзець.

## Загадка

Што гэта за машына, што разам жне і малоціць, а ідзе — ажно зямлю калоціць?

найбмак



**Лад** — спосаб жыцця.

## ХЛОПЧЫК І ЛЁТЧЫК

*Янка Купала*

Мой мілы таварыш, мой лётчык,
Вазьмі ты з сабою мяне!
Я — ведай — вялікі ўжо хлопчык
І ўмею ўжо лётаць у сне.

Мне мама сягоння казала,
Што стукнула мне ўжо сем год,
Табе гэта, можа, і мала,
А мне ляцець толькі ў палёт.

Мне ўжо надакучыла дома —
У дзіцячы хадзі адно сад,
А так паглядзеў бы, вядома,
На іншы парадак і лад.

Вазьмі ж мяне, лётчык, хачу я
Пабыць у людзях, паглядзець,
Як месяц на небе начуе,
Як блукае ў лесе мядзведзь.



Як свецяцца ночкаю зоры,
А днём не відаць іх чаму,
Як рэчкі ў далёкія моры
Ўлетку плывуць і ўзіму...




1. Што вы даведаліся пра хлопчыка? Колькі яму гадоў? Чым займаецца? Якая ў яго ёсць мара? Чаму ён хоча стаць лётчыкам?
2. Якім паказаны герой верша? Прачытайце адпаведныя радкі.
3. Да чаго заклікае нас сваім вершам Янка Купала?
4. Якія прафесіі, акрамя прафесіі лётчыка, вы яшчэ ведаеце?
5. Вывучыце верш на памяць.



Верш «Хлопчык і лётчык» (1935 г.) быў любімым творам у дзяцінстве Юрыя Гагарына — першага ў свеце касманаўта. Менавіта купалаўскі верш натхніў расійскага юнака стаць лётчыкам. На рускую мову твор «Хлопчык і лётчык» пераклаў рускі паэт Міхаіл Ісакоўскі.



**Сме́цце** — адкіды, рэшткі чаго-небудзь.

## НЕ ХАПІЛА РАБОТЫ

*Нічы́пар Пару́каў*

Адыходзячы на работу, маці паклікала да сябе дачок — Лізу і Таню — і сказала:

— Прыбярыце са стала, памыйце талеркі і лыжкі, падмяціце чысценька падлогу на кухні.

— Добра, мамачка. Усё зробім, як трэба, — дружна адказалі дзяўчынкі.

Вярнулася маці дадому і бачыць: стол засланы чыстым абрусам, талеркі і лыжкі вымыты і акуратна расстаўлены ў шафе для посуду. А кухня чыста-чыста падмецена. І смецце вынесена.

— Малайцы, дзеткі, добра зрабілі, — пахваліла маці дзяўчынак.

Ёй хацелася даведацца, хто ж з дачок што рабіў.



— Каторая з вас, мае дарагія памочніцы, са стала прыбрала?

— Я, — голасна адказала Таня.

— А хто талеркі і лыжкі памыў і паставіў на месца?

— Я, — зноў адказала Таня.

— Ну, а ты, Ліза, што рабіла? — глянула маці на старэйшую дачку.

— Я... я нічога, мама, не рабіла... Таня ўсё забрала сабе. Мне не хапіла работы, — ціха адказала дзяўчынка і вінавата апусціла галаву.



1. З якой просьбай звярнулася маці да сваіх дачок?
2. Як выглядала кухня, калі яна вярнулася дамоў? Прачытайце.
3. Пра што даведалася маці падчас размовы з дочкамі?
4. Чым апраўдвала сваю ляноту Ліза?
5. Як аўтар гаворыць пра тое, што Лізе стала сорамна? Прачытайце.
6. Чаму вучыць нас гэта апавяданне?



Падрыхтуйце падрабязны пераказ зместу па плане.

П л а н

1. Заданне дочкам.
2. У доме парадак.
3. Хацелася даведацца, хто што рабіў.
4. Ліза вінавата апусціла галаву.

## Прыказкі

Дзе няма ахвоты, там няма работы.
Дзе гультаёў больш, там жывецца горш.
У няўмечкі не баляць ні ручкі, ні плечкі.



**За рабо́ту бра́цца** — пачынаць працу.

## ТРЫ ЛЫЖКІ

*Іван Муравейка*

Недалёка,
Ды высока,
У хацінцы між сукоў
Белабокая Сарока
Гадавала трох сынкоў.

Большы зваўся Кра-кра-кра,
А сярэдні сын — Кра-кра,
А маленькі самы — Кра.

— Вы ўжо выраслі. Пара
Вам, сынкі, за працу брацца, —
Кажа ім Сарока-маці. —
Трое вас, братоў, а ў нас —
Тры грады на ўсіх якраз.

Хутка, лёгенька ўтрох
Вы праполеце гарох.



А праполеце, дык вам
На абед я кашы дам.

...Час абеду падыходзіць,
А што робіцца ў гародзе?
Кра ўсю градку прапалоў,
А Кра-кра — усяго палову.
А дзе дзеўся Кра-кра-кра?
Спіць на ўзмежку: хра-хра-хра.

Сарока-варона
Па прыпечку скакала,
Дзеткам лыжкі
Давала.

Большаму сыну — маленькую лыжку,
Сярэдняму сыну — большую крышку,
А са́маму меншаму — большую самую.
— Я кашу зварыла вам смачную, манную.

Кра-кра-кра пытае ў мамы:
— Растлумачце мне, чаму
Кра між нас маленькі самы,
А лыжку большую — яму.



1. Якое заданне Сарока дала сваім сынам? Прачытайце.
2. Як справіліся сыны з заданнем маці?
3. Чаму кожны з іх аднёсся да просьбы па-рознаму? Пра што гэта сведчыць?
4. Ці правільна Сарока раздала сынам лыжкі? Чаму вы так думаеце?
5. Чаму вучыць нас гэты твор?
6. Якія з прыказак падыходзяць да сэнсу гэтага верша?
   - *Сем разоў адмерай, адзін раз адрэж;*
   - *На яду — мастак, а на працу — сяк-так;*
   - *Да работы не пускаюць ляноты.*



**Касаві́ца** — час касьбы, сенакос.
**Се́сці на ку́кішкі** — прысесці, сагнуўшы ногі ў каленях і трымаючыся на насках.
**Сто́ма** — зморанасць ад цяжкай працы ці якога-небудзь занятку.

## ЧАРОЎНАЕ СЛОВА

*Міхась Даніленка*

Стасікаў бацька працуе трактарыстам. Цяпер, як пачалася касавіца, яго трактар цягне па лузе счэп касілак. Яны стракочуць і пакідаюць за сабой шырокую паласу выкашанай травы. Стасік, які прынёс бацьку абед, сядзіць пад кустом у цяньку і адмахваецца ад аваднёў. Яны злосна гудуць ля хлопчыка, круцяцца — спра-



буюць укусіць за руку, за потную шчаку. Хутчэй бы бацька ішоў!

А той робіць новы круг, праязджае паўз сына і прыветліва махае рукой.

— Ці скора, татка? — стараючыся перакрычаць шум матора, гукае Стасік.

— Скора, сын! Скора.

— Дранікі і боршч астынуць, — гаворыць Стасік. — А мама наказвала, каб абед адразу еў.

Нарэшце, зрабіўшы яшчэ адзін круг, бацька спыняе трактар. Ён сыходзіць з машыны, выцірае потны лоб і спяшаецца ў цянёк да куста крушыны, дзе чакае Стасік.

— Стаміўся? — пытаецца Стасік.

— Стаміўся, — прызнаецца бацька. — Ды я, брат, знаю чароўнае слова. Яно як рукой стому здымае.

Стасік усхопліваецца, садзіцца на кукішкі і здзіўлена глядзіць на бацьку.

— А што гэта за слова такое?

Бацька з апетытам сёрбае боршч. Запівае дранікі малаком і, як на дарослага, глядзіць на сына.



— А слова тое чароўнае — «трэба». Я вось ведаю: трэба скасіць усю дзялянку.

Сам зараз падрамлю трохі. А ты павартуй, паглядзі, каб ніхто да машыны не падыходзіў.

Сон зморвае і Стасіка, хіліцца да каленяў галава. Але ён не спіць: помніць бацькава чароўнае слова.



**1.** Якую важную працу выконваў Стасікаў бацька?

2. Чаму сыну хацелася, каб тата хутчэй прыйшоў есці?
3. У якіх словах і выразах праяўляецца клопат сына пра бацьку? Прачытайце.
4. Пра якое чароўнае слова даведаўся Стасік ад таты?
5. Як сын кіраваўся чароўным словам у час варты? Падмацуйце адказ радкамі з твора.
6. Чаму бацька вучыў сына?
7. Як вы разумееце сэнс загалоўка апавядання — «Чароўнае слова»?



1. Падзяліце апавяданне «Чароўнае слова» на сэнсавыя часткі згодна з планам.

План

1. Бацька Стасіка працуе трактарыстам.
2. Тата робіць новы круг.
3. У час абеду.
4. Чароўнае слова — «трэба».
5. Стасік не спіць.

2. Падрабязна перакажыце адно аднаму змест гэтага твора па плане.



**Турбава́ць** — хваляваць, трывожыць.
**Завіха́шча** — старанна, хутка рабіць што-небудзь.
**Ла́дзіць** — *тут:* спраўляецца.

## ЯК НАСТАЧКА МАМЕ ДАПАМАГАЛА

*Ядві́га Бяга́нская*

Прыйшла мама з працы ды пачала ў кватэры прыбіраць. Прыбірала, прыбірала, села ў крэсла і кажа:

— Нешта галава разбалелася. Адпачну я крыху, дачушка, а пасля падлогу памыю.

Легла яна на ложак і заснула.

Паглядзела Настачка, што мама спіць, накрыла яе шарсцяной хусткай, выйшла на пальчыках са спальні і дзверы за сабой прычыніла. Няхай паспіць мама, а яна тут, у другім пакоі, пасядзіць ціхенька. І села ў вялікае крэсла.

А ў пакоі непарадак. Каля дзвярэй вядро з вадой стаіць, сярод пакоя крэслы са-



стаўлены. Няўтульна, нават урокі рабіць не хочацца. І пачала Настачка думаць, як маме дапамагчы.

«Вазьму ды сама падлогу памыю, — рашыла яна. — Немаленькая ўжо, у школу хаджу». І ўзялася за работу.

Нялёгка ўпраўляцца з вялікай анучай, калі ў цябе такія маленькія рукі. Не слухае ануча Настачкі, не хоча ніяк ваду з сябе выпускаць. Выкручвае, выкручвае яе Настачка, з усіх сіл стараецца, а вада ўсё цячэ ды цячэ. І як гэта мама так спрытна ладзіць з ёю? Але і Настачка не адступіцца, не такая яна, каб не адолець анучы.

Памалу справа пайшла на лад. Праўда, ад непаслухмянай анучы балелі рукі, але

Настачку гэта не вельмі турбава́ла. Яна радавалася, што памыла падлогу, маме дапамагла, і шчаслівая ўсмешка свяцілася на яе расчырванелым ад работы твары.

— А цяпер збяру вячэру, — сказала сабе Настачка і пачала завіхацца каля стала.

Калі чайнік закіпеў, яна выключыла пліту і пайшла будзіць маму.

— Ой, як доўга я спа́ла! — глянуўшы на гадзіннік, усклікнула мама. — Хутка тата з працы вернецца, а яшчэ падлога не памыта і вячэра не сабрана.

Настачка ўсміхнулася, але нічога не сказала. А мама выйшла са спальні і вачам не паверыла: і падлога памыта, і вячэра стаіць на стале.

— Хто ж гэта ў нас гаспадарыў? — здзівілася мама.

— Я! — весела адказала Настачка.

Мама прыгарнула дачку да сябе, пацалавала ў адну, пасля ў другую шчаку і сказала:

— Памочніца ты мая дарагая! Гаспадынька ты мая слаўная!



1. Чаму маці Настачкі прыпыніла ўборку кватэры?
2. Як дачка паводзіла сябе ў час адпачынку матулі?
3. Ці лёгка было дзяўчынцы займацца ўборкай кватэры? Зачытайце адпаведныя радкі з твора.
4. Чаму дачка давяла працу да канца?
5. Ці спадабаўся вам учынак Настачкі? Чаму?





Разгледзьце малюнак.
Адкажыце на пытанні.

1. Хто знаходзіцца на кухні?
2. Чым займаюцца маці і дзеці?

Складзіце па малюнку апавяданне «Дапамога маме». Выкарыстоўвайце апорныя словы. Пачаць можна так: *«Дзеці прыйшлі са школы, пераапрануліся, памылі рукі і зайшлі на кухню...»*

А п о р н ы я  с л о в ы: маці, брацік, сястрычка; засцілае абрус, расстаўляе чысты посуд, раскладвае лыжкі і відэльцы, мые гародніну: памідоры, агуркі, радыску; налівае суп, кроіць хлеб; графін, налівае кампот у шклянкі; сядаюць за стол, жадаюць смачна есці, шчыра дзякуюць матулі.



У далёкія часы ў беларускіх сем'ях дзеці пачыналі працаваць вельмі рана. З 7-8 гадоў яны ўжо пасвілі жывёлу, зграбалі сена, баранавалі. Падлеткаў, якім было гадоў 15, прывучалі касіць, ара́ць, малаціць. У 5 гадоў дзяўчынкі няньчылі дзяцей, а ў 16 умелі шыць, ткаць, жаць.

## Правер свае дасягненні па тэме «Урокі працавітасці»

***Ведаю...***

1. З якіх твораў узяты словы?

а) «— А слова тое чароўнае — “трэба”. Я вось ведаю: трэба скасіць усю дзялянку»;

б) «— Я... я нічога, мама, не рабіла... Таня ўсё забрала сабе. Мне не хапіла работы, — ціха адказала дзяўчынка і вінавата апусціла галаву»;

в) «...Мы нясём
З універсама —
Хлеб,
Аснову ўсіх асноў».

2. Якія словы прапушчаны ў радках вершаў?

а) «Рупнай працай,
Цёплым ветрам
І расою пахне ...»;

б) «Недалёка,
Ды высока,
У хацінцы між сукоў
Белабокая ...
Гадавала трох ...».

3. У якім вершы радкі заканчваюцца наступнымі словамі?

...*аладкі,*
...*залівае,*
...*мышанятка*
...*памагае.*

4. Назавіце аўтараў наступных радкоў:

а) «Мой мілы таварыш, мой лётчык,
Вазьмі ты з сабою мяне!»;

б) «І як гэта мама так спрытна ладзіць з ёю? Але і Настачка не адступіцца, не такая яна, каб не адолець анучы».

5. Пра людзей якіх прафесій ішла размова ў творах раздзела? Якія яшчэ прафесіі вы ведаеце?

6. Узгадайце і назавіце персанажаў. З якіх яны твораў?





***Разумею, магу растлумачыць...***

1. Чаму Міхась Пазнякоў у сваім вершы параўноўвае хлеб з сонейкам?

2. Які ўрок атрымалі сыны ад сваёй маці Сарокі з верша Івана Муравейкі «Тры лыжкі»?

3. Як патрэбна разумець сэнс прыказкі «Калі хочаш хлеб мець, то трэба зямельку глядзець»?

4. Чаму неабходна беражліва адносіцца да хлеба?

5. На якую тэму напісана апавяданне Міхася Даніленкі «Чароўнае слова»?

***Умею...***

1. Прачытаць на памяць верш Янкі Купалы «Хлопчык і лётчык».

2. Падрабязна пераказаць змест апавядання Міхася Даніленкі «Чароўнае слова».

3. Выразна прачытаць верш Івана Муравейкі «Тры лыжкі».

# УСМЕШКА ВЯСНЫ



**Мы пазнаёмімся** з творамі пра веснавыя змены ў прыродзе, працу і адпачынак людзей вясной.

**Мы будзем вучыцца:**

❖ вызначаць настрой вершаў;

❖ выказваць уласныя адносіны да персанажаў і зместу твораў.

**Мы навучымся:**

❖ знаходзіць у вершах і апавяданнях апісанне карцін вясенняй прыроды;

❖ акрэсліваць тэму і асноўную думку твора.



**Парка́н** — драўляная агароджа; плот. **Грудо́к** (снегу) — невялічкая горачка. **Ко́рпацца** — капацца, перабіраючы, шукаючы што-небудзь.

## ДЗЕ НАЧАВАЛІ РУКАВІЧКІ?

*Ядвіга Бяганская*

Уночы выпаў снег. Ён заслаў зямлю і дахі дамоў бялюткім чыстым абрусам, надзеў на слупкі парканаў высокія пушыстыя шапкі, засыпаў кусты і кветнікі.

Глянула Ірынка ў акно і не пазнала свайго двара: такі ён святочны, такі прыгожы.

А вось і сябры яе — Юра, Надзейка, Віця. Бегаюць, смяюцца, снежкамі кідаюцца. Убачылі, што Ірынка праз акно глядзіць, падбеглі і клічуць:

— Ірынка, ідзі да нас, будзем снежную бабу ляпіць.

І Шарык кліча сваю гаспадыню. Ён глядзіць на яе і весела, звонка брэша.

— Іду! — крычыць праз акно Ірынка і бяжыць апранацца.

Многа насыпала снегу за ноч. Добрую бабу можна зляпіць. Скачалі дзеці вялізны снежны шар, паставілі яго сярод двара ды ўзяліся другі рабіць. Зрабілі другі, крыху меншы, і паставілі яго на той першы.

— Тулава ёсць, — сказаў Юра. — Будзем галаву рабіць.

Скачалі дзеці са снегу трэці, яшчэ меншы, шар і паклалі на самы верх.

— А цяпер трэба зрабіць нашай снежнай бабе вочы, нос і рот, — сказала Надзейка.

Пакорпаўся Юра ў адной кішэні, пакорпаўся ў другой і знайшоў дзве новенькія гайкі. Уставіў іх Юра снежнай бабе замест вачэй. Цудоўныя вочы атрымаліся. А там, дзе павінен быць нос, уторкнулі бабе таўшчэзную моркву.

Прыгожая выйшла баба, вясёлая. Да самага абеду гулялі каля яе дзеці.

А калі пачалі разыходзіцца, Ірынка раптам успомніла пра свае рукавічкі і ўсклікнула:



— Ой, а дзе ж мае рукавічкі?! Я іх вось тут, каля гэтага слупка, паклала, калі бабу пачалі ляпіць.

— Зараз знойдзем твае рукавічкі, — сказала Надзейка. — Нікуды яны не дзенуцца.

Доўга шукалі дзеці Ірыны рукавічкі, ды так і не знайшлі.

— Мае рукавічкі... Іх мне бабуля ўвосень звязала... Гэта яе апошні падарунак... — плакала Ірынка. — Я так любіла іх, так берагла... Няма ў мяне больш бабулі і рукавічак яе няма...

Шкада было дзецям Ірынку, пасмутнелі яны, прыціхлі. І рады б дапамагчы сяброўцы знайсці яе рукавічкі, ды дзе іх шукаць — не ведаюць.

Пад вечар дзеці зноў выбеглі пагуляць. Выйшла на двор і Ірынка. Толькі было ёй зусім нявесела. Хадзіла яна па двары, ва ўсе куточкі зазірала, рукавічкі свае шукала.

— І куды яны маглі падзецца? — уздыхала дзяўчынка. — Можа, іх снежная баба схавала?

Сцямнела. У вокнах засвяціліся агеньчыкі. Апусцеў і прыціх двор. Засталася снежная баба адна.



Як могуць развівацца падзеі ў творы далей? Як апавяданне закончыцца?

Уночы пацяплела. А пад раніцу прайшоў дождж, і ад снежнай бабы застаўся толькі невялічкі грудок снегу, а на ім... чырвоныя Ірыны рукавічкі. Відаць, не заўважылі іх дзеці ды закачалі ў адзін з тых шароў, з якіх рабілі снежную бабу.

Прачнулася раніцай Ірынка, глянула праз акно і вачам сваім не паверыла.

— Рукавічкі! Бабуліны рукавічкі! — радасна ўсклікнула яна і кінулася да дзвярэй.



На дварэ свяціла сонейка, і ад учарашняга снегу толькі лужынкі адны засталіся. Відаць, ужо адышла пара ляжаць яму на дварэ.



1. Якую карціну прыроды ўбачыла Ірынка за акном? Знайдзіце і прачытайце адпаведныя радкі.
2. Як дзеці ляпілі снежную бабу? Прачытайце.
3. Які непрыемны выпадак адбыўся з Ірынкай?
4. Чаму рукавічкі былі асабліва дарагія дзяўчынцы?
5. У якіх радках паказана настойлівасць Ірынкі? Прачытайце іх.



Падрыхтуйце падрабязны пераказ апавядання па плане.

П л а н

1. Святочны і прыгожы двор.
2. Сябры паклікалі Ірынку.
3. Як дзеці снежную бабу ляпілі.
4. Прапалі Ірынчыны рукавічкі.
5. Настойлівая дзяўчынка.
6. Рукавічкі знайшліся.



**Каду́шка** — невялікая драўляная пасудзіна, звычайна выкарыстоўваецца для заквашвання капусты.
**Буга́й** — начная балотная птушка сямейства чапляў.
**Ма́ла дба́е** — не звяртае ўвагі, не турбуецца.
**Сі́таўка** — невялікая пералётная птушка атрада вераб'іных.
(Стогнуць) **кнігі** — кнігаўкі.

## ПРЫЛЁТ ПТУШАК

Ціхая раніца. Сонейка толькo што ўзышло. У полі яшчэ ляжыць снег. Толькі ўзгоркі чарнеюць. Лужынкі сцягнуліся за ноч лядком. Але ўжо чуваць вясна, і ўсё пазірае па-вясенняму.

Выйшаў маленькі Ясь на двор. Весела так яму, лёгка на сэрцы. Прыгрэе зараз сонца, добра будзе гуляць на дварэ.

Ціха! Што гэта звініць у небе тоненькім срэбраным званочкам? Так хораша, так міла — душа замірае! Ясь прыслухаўся. Не відаць нічога, а ў небе ціха разліваецца тоненькая песенька, нібы грае хто на срэб-

ранай дудачцы. Гэта жаваранак! І так весела Ясю, здаецца, каб можна было, пацалаваў бы мілую птушачку. Галубка! Яна ўжо вярнулася з далёкай старонкі ў наш родны край і ў ясным небе заліваецца дзіўнаю песняю.

— Тата! Тата! Чуеш жаваранка?

Бацька Яся прыслухаўся.

— Але, жаваранак. Ну, зараз, брат, і шпак прыляціць, а там і бусел, а за ім і ўсе птушкі.

Рад Ясь, што першы пачуў ён жаваранка, і пабег хваліцца сваім сябрам. Дзеці выходзілі на двор слухаць першую песню вясны. І ім было весела.



— Эх, дзеці! Не скора яшчэ вясна, — казаў хто-небудзь старэйшы.

Дзеці не любілі слухаць такія рэчы. Яны любяць вясну, яны любяць, каб гаварылі ім аб вясне. А часам і праўда захаладае; дзеці кажуць: «Зусім

не холадна; не толькі не холадна — гарача нават».

Кожную новую госцю-птушку дзеці сустракаюць з радасцю.

Праз некаторы час прылятае шпак. Холадна, туман, а ён мала дбае. Спявае на ўсё поле вясёлыя песні, седзячы дзе-небудзь на голай бярозе, як бы і холаду яму няма.

У канцы сакавіка ўжо збіраецца шмат птушак. У лесе спяваюць дразды, лясныя жаваранкі, а па балоце важна праходжваецца бусел. Па стрэхах бегаюць шустрыя бела-рудыя сітаўкі, трасуць сваімі доўгімі хвастамі.

А выйдзеш увечары на двор — крычаць качкі, жалобна стогнуць кнігі; як у кадушку, грукае недзе на возеры бугай. Розныя галасы поўняць паветра, усё спявае і радуецца.

*Паводле Якуба Коласа.*



**1.** Якія карціны ранняй вясны паказаў Якуб Колас у сваім апавяданні? Знайдзіце адпаведныя радкі і зачытайце.

2. Чаму маленькаму Ясю было весела на дварэ?
3. Які настрой выклікае ў вас апісанне спеву жаваранка? Чаму? Прачытайце адпаведныя радкі.
4. З кім падзяліўся Ясь сваімі ўражаннямі ад песні птушкі?
5. Якія асаблівасці характару ўласцівы маленькаму Ясю?
6. Пра што хацеў сказаць аўтар у апавяданні?
7. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання гэтага твора.

## Прыкметы вясны

З бярозы цячэ шмат соку — на дажджлівае лета.

Красавік з вадою — май з травою.

## Загадка

З выраю
першы вяртаецца,
з песняй
да свету звяртаецца,
поля і неба сябрук —
гэта, вядома, ... .

*Васіль Жуковіч.*





**Бу́лі-гу́лі** — гукі і спевы птушак.
**Жэ́ўжык** — свавольнік, непаседа.

## ПЕСНЯ АБ ВЯСНЕ

*Якуб Колас*

Уцякай, мароз-дзядуля!
Чуеш ты, стары, ці не?
На пагорках — булі-гулі! —
Песні чуюцца вясне.

Звоніць, скача, як дзіцятка,
Гэты жэўжык-ручаёк.
На яго, бы тая матка,
Сонца кідае свой зрок.

А зіма аж пачарнела —
Годзе ёй тут кросны ткаць!..
Гэй, маленства, жыва, смела
Выйдзем весну прывітаць!



1. Да каго звяртаецца паэт у творы? Па якой прычыне?
2. Якія прыкметы вясны апісваюцца ў вершы? Прачытайце.

3. З кім параўноўвае Якуб Колас ручаёк? На каго падобна сонца?
4. Чаму пры апісанні ручайка аўтар ужывае словы *звоніць, скача*?
5. Як вы разумееце выраз

   *А зіма аж пачарнела —*
   *Годзе ёй тут кросны ткаць!..*?

6. Каго аўтар заклікае сустракаць вясну? Чаму?
7. Вывучыце верш на памяць.



*Фердына́нд Рушчыц.* Вясна



Разгледзьце карціну.
Адкажыце на пытанне.

Што аб'ядноўвае верш Якуба Коласа і карціну Фердынанда Рушчыца?

# СЯБРЫ ВЯСНЫ

*Уладзімір Мазго*

Нібы хлапчук,
Бяжыць раўчук
У госці да вясны.
Вітае песенькай жаўрук —
Нябёсаў сувязны.

Вясна ўсміхаецца, пяе
На полі і ў бары...
І мы спяшаем
Да яе,
Як лепшыя сябры.



1. З якім пачуццём паэт піша пра надыход вясны? У якіх словах гэта найбольш выражана?
2. Якія прыкметы вясны адлюстраваны ў гэтым вершы? Прачытайце.
3. Як вы разумееце сэнс радкоў

   *Вітае песенькай жаўрук —*
   *Нябёсаў сувязны*?
4. Якімі словамі паэт ажыўляе ручаёк і вясну, надае ім чалавечыя рысы? Прачытайце.
5. Хто з’яўляецца сябрамі вясны?



**Але́я** — дарожка ў парках або ў скверах, з абодвух бакоў абсаджаная дрэвамі, кустамі. *Тут:* рад дрэў, пасаджаных уздоўж дарогі.

## САДЗІМ АЛЕЮ

*Міхась Пазнякоў*



Мы ля школьнае дарогі
Ў гонар свята Перамогі
Ў вясновую нядзелю
Садзім новую алею.

Хто — бярозку,
Хто — рабінку,
Хто — таполю,
Хто — вярбінку,



Таня — ліпку,
Клім — дубок,
Ясь — каштан,
А я — клянок.

А Святлана і Наташа
Паліваюць дрэўцы нашы.
Хай расце і зелянее
Наша слаўная алея!



1. У гонар якога свята дзеці садзяць алею? Калі яно адзначаецца?
2. Дзе вучні вырашылі пасадзіць дрэўцы?
3. Якія дрэўцы яны пасадзілі? Прачытайце.
4. Па якіх словах вы заўважылі, што такая алея ўжо не першая? Прачытайце.
5. Да якіх дзеянняў заклікае нас Міхась Пазнякоў у сваім вершы ?

## Загадка




Зялёная, а не луг.
Белая, а не снег.
Кучаравая, а без валасоў.

*З народнага.*



**Сва́рба** — сва́рка.
**Стро́ілася ў кве́ткі** — *тут:* апранала зямлю ў кветкі.
**У барано́вы рог скруці́ць** — паставіць у бязвыхаднае становішча.
**Ра́дзіць** — раіць, прапаноўваць.
**Жабра́к** — бядняк, які жыве з міласціны, старац.
**Сві́тка** — доўгая сялянская верхняя вопратка.

## СВАРБА

Казка

Пасварыліся вясна з зімою, ну і давай адна адной на злосць рабіць.

— Я, — кажа вясна на зіму, — не буду з табой шмат гаварыць! За каўнер — і так шпургану, што аж за лясамі ты ў мяне апынешся!

— Маўчы, маўчы, — бурчала белая зіма. — Хіба я цябе ў барановы рог скручу, як сцісну, то аж табе вылезуць вочы.

Ну і пачалі адна адной наперакор рабіць. Зіма паўзе з марозам — вясна лезе з адлігай, і зноў няма парадку. Цярпелі

людзі, цярпелі, а пасля давай сход рабіць, давай ра́дзіць, на чыёй тут старане ім стаяць. Адны казалі:

— Мы яшчэ не вымалацілі збожжа, не навазілі дроў, не адпачылі пасля летняй працы, хай пабудзе зіма.

Другія зноў крычалі:

— Вон зіму! Яна нас памарозіць; мы і так лапці патапталі, кажухі абадралі. Досыць нам яе; хочам вясны.

І немаведама, як то яно прайшло б на тым сходзе, каб не ўвайшоў старэнькі жабрак і не пачаў жаліцца на зіму.

Праўда, вушы былі абмарожаны, рукі патрэсканы, світка рвана, сам ён дрыжаў ад холаду. Увесь сход закрычаў у адзін голас:

— Не хочам зімы! Хай вясна ідзе да нас!

Бедная зіма горка заплакала, слёзкі яе цяклі са стрэх, разліваліся па зямлі, збягалі ў лужы, з лужаў — у рэчкі, з рэчак — у моры, з мораў — у акіяны.



Як могуць развівацца падзеі ў казцы далей? Як казка закончыцца?

А вясна смяялася, строілася ў кветкі, скакала па палях, песцілася па садах, шчабятала з птушкамі, цалавалася з дзеткамі, аж пакуль не пасварылася з летам.

Хто цяпер пераможа, скажыце, дзеткі, самі?

*Паводле Цёткі.*



1. З-за чаго пасварыліся зіма з вясною?
2. Што прымусіла людзей збірацца на сход?
3. Чаму адна група жыхароў жадала працягу зімы, а другая — прыходу вясны? Падмацуйце адказ радкамі з твора.
4. Хто настроіў усіх людзей супраць зімы? Якія ўражанні выклікала ў вас апісанне знешнасці старога жабрака? Зачытайце адпаведныя радкі.
5. Як апісвае паводзіны вясны Цётка? Ці спадабаўся вам гэты ўрывак? Чаму?
6. Адкажыце на пытанне, змешчанае ў апошнім сказе твора.
7. Падрыхтуйце выразнае чытанне казкі «Сварба».

## Прыказка

Вясенні дзень год корміць.



**Заву́шніцы** — упрыгожанне, якое прымацоўваецца да мочкі вуха.

## ВЯСНОВАЯ БЯРОЗКА

*Ніна Галіноўская*

— Чаму ты, бярозачка,
гэтак прыбралася?
У госці да клёна,
напэўна, сабралася:
На кожнай галінцы
вісяць завушніцы,
Сукенка — сама
пазайздросціць царыца.
— Хто з добрай душою —
жаданы мой госць,
Для іх мой убор
і мая́ прыгажосць.



1. Чаму паэт размаўляе з бярозкай?
2. Як выглядае дрэўца? Прачытайце яго апісанне.
3. Для якіх людзей прыбралася бярозка? Падмацуйце адказ радкамі з верша.

4. Як вы разумееце сэнс выразу

*Хто з добрай душою —*
*жаданы мой госць*?

5. Якая асноўная думка гэтага верша?
6. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання твора «Вясновая бярозка» па ролях.



*Станіслаў Жукоўскі*. Лес



Разгледзьце карціну.
Адкажыце на пытанні.

1. Якая пара года адлюстравана? Па чым вы здагадаліся?
2. Што адлюстравана мастаком на пярэднім плане? На дальнім?
3. Як выглядаюць бярозкі? Які ў іх ствол? Якога колеру лісточкі?

4. Як выглядаюць трава, поле і неба?
5. Па чым вы здагадаліся, што мастак адлюстраваў сонечны дзень?
6. Які настрой стварае ў вас гэта карціна? Чаму?

## Загадка




Як толькі дачакалася цяпла,
збіраць нектар
старанна пачала
працалюбівая … .

*Васіль Жуковіч.*

## ПЧОЛКА

*Янка Журба́*



Веснавое сонца
Росы падбірае.
Вылецела ў поле
Пчолка залатая.
Ёй за шчырай працай
Весела на полі:
Луг прыбраны ў кветкі,
І наўкол раздолле.

З рання да змяркання
Пчолка залатая
Лётае па кветках
Ды мядок збірае.
    Шмат сабрала пчолка
    Мёду з розных кветак —
    Дома ім пакорміць
    Родных пчолак-дзетак.
У вуллі работа
Цэлы дзень кіпела.
Вечарам з дабычай
Пчолка прыляцела.



1. Які настрой выклікаў у вас верш? Чаму?
2. У якую пару года вылецела пчолка з вулея? Падмацуйце адказ адпаведнымі словамі.
3. Чаму ёй весела ў час працы? Прачытайце адпаведныя радкі.
4. У якіх радках пчолка паказана шчырай працаўніцай і выдатнай маці?
5. Чаму ў яе не прапаў дарэмна дзень? Прачытайце.
6. Ці спадабалася вам пчолка? Чаму?
7. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання гэтага твора.



**Някі́дкі** — які не кідаецца ў вочы, няяркі.

## ЯК ГАЛІНКА ПРАЧНУЛАСЯ

*Ніна Маеўская*

Іванка і сястрычка яго Аленка чакалі вясну. Яны ведалі, што пасля зімы спачатку прыходзіць вясна, потым — лета. А летам яны з татам і мамай паедуць на Нарач — вялікае возера, дзе можна купацца і загараць.

Кожную раніцу дзеці пыталіся ў мамы, ці не прыйшла ўжо вясна. І чулі ў адказ:

— Не, трэба крыху яшчэ пачакаць.

— Колькі ж яшчэ трэба чакаць? — ледзь не плакала Аленка.

— Спачатку снег растане, — гаварыў упэўнена старэйшы, Іванка.

Неўзабаве і снег сышоў, а вясны ўсё не было.

— Мусіць, снег проста паспяшаўся растаць, — меркаваў Іванка.

— А як жа мы цяпер заўважым, што прыйшла вясна? — непакоілася Аленка.

Іванка маўчаў, пазіраючы з акна на вуліцу, дзе было хмурна і холадна.

Аднойчы мама вярнулася з работы вясёлая. Яна трымала ў руцэ галінкі, нібы букецік кветак. Звычайныя дубчыкі, жаўтавата-шэрыя, някідкія. Вунь іх колькі на дрэвах! Перш чым заняцца хатнімі справамі, мама ўзяла вазачку, у якую звычайна ставілі кветкі, наліла туды вады і апусціла галінкі.

— Вось, мае дарагія, — сказала яна, абдымаючы дзетак, — гэта галінкі вярбы, вярбінкі. Яны і пакажуць нам, калі прыйдзе сапраўдная вясна.



Іванка і Аленка здзіўлена пазіралі то на маму, то на шэранькія вярбінкі і не маглі зразумець, як яны падкажуць прыход вясны. Ці не чароўныя? Аленцы адразу захацелася памацаць іх, патрымаць у руках.

— Асцярожна, — сказала мама, — не паруш пупышачкі. Яны, як зярняткі, маленькія. Галінкі яшчэ спяць, заплюшчыўшы вочкі. А калі адчуюць, што ідзе вясна, прачнуцца.

— Хіба яны раскрыюць вочы, як я? — запытала Аленка.

— Так, мая разумніца, — адказала мама, — адкрыюць вочкі зялёныя лісточкі. А вось на гэтай галінцы, таўсцейшай і мацнейшай, з'явяцца коцікі.

— Сапраўдныя коцікі? — здзівілася Аленка.

— Мяўкаць будуць, — засмяяўся Іванка і пачаў дражніцца: — Мяў-мяў-мяў...

Аленка пакрыўдзілася на яго. І не пытала болей пра коцікаў. Але з нецярпеннем чакала іх, аднойчы нават прысніла.

Такія мякенькія, пушыстыя — сапраўдныя коцікі. Яна гладзіла іх, прыхінала да шчакі.

Раніцай дзеці найперш беглі да акна, дзе стаялі галінкі-вярбінкі. Але нічога там не адбывалася: галінкі нерухома стаялі ў вазачцы.

— Спяць яшчэ, — шкадаваў Іванка.

— Бо зіма вярнулася, — уздыхала Аленка. — Бачыш, снег на вуліцы.

— Я ж табе гаварыў, што ён паспяшаўся растаць. Зноў зіма, зноў зіма... а вясны няма, няма... — Іванка ажно заспяваў ад радасці. Не таму, што зіма вярнулася, а што спраўдзілася яго здагадка.

— Ціха, — спыніла яго Аленка. — Сваім крыкам ты іх пабудзіш, і коцікі мае змерзнуць. Няхай галінкі паспяць яшчэ, а мы снегавіка злепім.

— Ты ж хацела, каб вясна хутчэй прыйшла! — дакараў Іванка.

— Гэта я ўчора хацела, — апраўдвалася Аленка. — А сёння будзем снегавіка ляпіць, у снежкі гуляць.

Удзень сонейка спынілася насупраць акна, дзе ціха спалі галінкі-вярбінкі. Разглядала іх, ласкава саграваала сваім цяплом. Прыходзіла сонейка і пасля кожны дзень. І аднойчы Аленка заўважыла, што галінкі крыху іншыя, чым былі раней.



Чаму галінкі вярбы пачалі мяняцца? Што паспрыяла гэтаму? Якога колеру стануць коцікі?

— Іванка, — паклікала яна брацікa, — на нашых вярбінках ягадкі з’явіліся, толькі яшчэ зялёненькія.

Зірнуць на ягадкі прыйшла і мама. Яна патлумачыла, што гэта набрынялі пупышкі.

— Вой, а на гэтай галінцы дзюбкі парасрываліся, — радавалася Аленка. — Можа, тут будуць не коцікі, а якія птушачкі.

— Яны, мусіць, піць просяць. Бачыце, як мала ў іх вадзіцы, толькі на донцы, — сказала мама. — Іванка, прынясі ім кубак вады.

Іванка мігам памчаў на кухню.



Назаўтра Аленка ажно ў ладкі запляскала.

— Глядзіце, глядзіце, мая галінка прачнулася! — усклікнула яна.

— І мая таксама! Мама, ідзі зірні! — цешыўся Іванка.

І сапраўды, на адной галінцы зелянелі маленькія лісцікі, вузкія, як заспаныя вочкі, а на другой — залаціліся пухнатыя плюшавыя шарыкі-коцікі. Аленка прыхінула іх да твару, папрасіла:

— Мама, можна я іх заўтра ў школу занясу? Няхай усе дзеці пабачаць, што наша галінка прачнулася. Я ведаю, яе пабудзіла сонца, каб яна падказала, што на дварэ ўжо сапраўдная вясна. А потым абавязкова будзе лета.



1. Чаму Іванка і Аленка з нецярпеннем чакалі надыходу вясны?
2. Па чым мама прапанавала дзецям сачыць за надыходам вясны?

3. Чаму галінкі вярбы доўгі час стаялі ў вазачцы нерухома?
4. З-за чаго Аленка не дазваляла свайму брату крычаць у пакоі? Як гэта характарызуе дзяўчынку?
5. Ці спадабалася вам апісанне сустрэчы сонейка і галінак-вярбінак? Якія словы дапамаглі аўтару перадаць цеплыню адносін паміж імі? Чаму іх паводзіны падобныя да чалавечых?
6. Якія асаблівасці характару маці вызначаюцца ў апавяданні?
7. Размяркуйце тэкст па ролях і прачытайце.

## Правер свае дасягненні па тэме «Усмешка вясны»

***Ведаю...***

1. З якіх вершаў узяты радкі?

а) «Хай расце і зелянее
Наша слаўная алея!»;

б) «Ёй за шчырай працай
Весела на полі:
Луг прыбраны ў кветкі,
І наўкол раздолле»;

в) «— Хто з добрай душою —
жаданы мой госць,
Для іх мой убор
і мая́ прыгажосць»;

г) «Нібы хлапчук,
Бяжыць раўчук
У госці да вясны».

2. У якім вершы аўтар просіць марозадзядулю ўцякаць і запрашае ўсіх разам сустракаць вясну?

3. У якіх творах так апісваецца вясна?

а) «Што гэта звініць у небе тоненькім срэбраным званочкам? Так хораша, так міла — душа замірае! Ясь прыслухаўся. Не відаць нічога, а ў небе ціха разліваецца тоненькая песенька, нібы грае хто на срэбранай дудачцы»;

б) «Уночы пацяплела. А пад раніцу прайшоў дождж, і ад снежнай бабы застаўся толькі невялічкі грудок снегу, а на ім... чырвоныя Ірыны рукавічкі»;

в) «А вясна смяялася, строілася ў кветкі, скакала па палях, песцілася па садах, шчабятала з птушкамі, цалавалася з дзеткамі, аж пакуль не пасварылася з летам»;

г) «Удзень сонейка спынілася насупраць акна, дзе ціха спалі галінкі-вярбінкі. Разглядала іх, ласкава саграала сваім цяплом. Прыходзіла сонейка і пасля кожны дзень».

4. У якім вершы радкі заканчваюцца наступнымі словамі?

...*бярозачка,*
...*прыбралася?*
...*да клёна,*
...*сабралася*...

## *Разумею, магу растлумачыць...*

1. Чаму Ірынцы з апавядання Ядвігі Бяганскай «Дзе начавалі рукавічкі?» рукавічкі былі асабліва дарагія?

2. З якой нагоды дзеці з верша Міхася Пазнякова «Садзім алею» садзілі каля школы дрэўцы?

3. Чаму ў казцы Цёткі «Сварба» поры года сварацца паміж сабою?

4. Дзякуючы каму раслі цікаўнымі, добрымі і паважлівымі брат Іванка і сястра Аленка з апавядання Ніны Маеўскай «Як галінка прачнулася»?

*Умею...*

1. Выразна чытаць на памяць верш Якуба Коласа «Песня аб вясне».

2. Падрабязна пераказаць змест апавядання Ядвігі Бяганскай «Дзе начавалі рукавічкі?».

*Гульня «Навядзіце парадак»*

Дапамажыце мастаку правільна злучыць прозвішчы аўтараў з малюнкамі да іх твораў.

*Ядвіга Бяганская*

*Ніна Маеўская*





# З ЛЮБОЎЮ ДА РОДНАГА КРАЮ



**Мы пазнаёмімся** з творамі, у якіх расказваецца пра адносіны да Радзімы, хлеба, пра прыродныя сімвалы Беларусі.

**Мы будзем вучыцца:**

- вызначаць рысы характару дзейных асоб;
- выказваць уласныя адносіны да персанажаў, іх учынкаў і зместу твора.

**Мы навучымся:**

- вызначаць настрой вершаў;
- вылучаць у творах асобныя вобразныя малюнкі.



**Удо́сталь** — дастаткова.

## ШПАК І ВЕРАБЕЙ

*Расціслаў Бензярук*

З кожным днём станавілася ўсё халадней і халадней.

Аднойчы Шпак сказаў знаёмаму Вераб'ю:

— Лячу ў цёплыя краіны. Бывай, сусед!

— А можна мне, пакуль цябе не будзе, пажыць у тваім доме? — запытаў Верабей.

— Калі ласка, жыві.

— Дзякую. Шчаслівай табе дарогі!

Шпакоўня спадабалася Вераб'ю — цёплая, утульная. «Каб Шпак не вярнуўся, дык мне яго дом застаўся б», — часам думаў Верабей.

Доўга цягнулася зіма, нарэшце яна скончылася. Снег растаў, а Шпак усё не прылятаў. «Можа, ён застаўся жыць у тых цёплых краінах?» — радаваўся Верабей.



Але аднойчы раніцай, калі так хораша свяціла сонца, Верабей пачуў знаёмую песеньку. Ён хуценька вылецеў са шпакоўні. На бярозе сядзеў Шпак і насвістваў вясёлую песню.

— Чаму ты радуешся? — здзівіўся Верабей.

— Як чаму?! Дамоў вярнуўся.

— А там, куды ты лятаў, ні зімы, ні сцюжы, кажуць, зусім не бывае. Гэта праўда?

— Праўда.

— І ты вярнуўся?! А ўвосень зноў паляціш?

— Палячу, бо маразы прагоняць.

— Ці варта было вяртацца, — разважліва сказаў Верабей, — каб зноў мучыцца,

ляцець у вырай? Вось калі б я дабраўся да зямлі, дзе заўжды цёпла, дзе ўдосталь чарвякоў і мошак, дык, напэўна, ніколі не вярнуўся б сюды.

— Але ў кожнай птушкі ёсць родны край, — адказаў Шпак. — Там, дзе ты вырас, дзе выраслі твае дзеці. І кожная птушка, перамагаючы ўсе цяжкасці, вяртаецца дадому.

І Шпак пырхнуў у свой домік: трэба было папраўляць старое жытло.

— Дзіва-ак!.. — усміхнуўся Верабей.

Ён, мусіць, не верыў Шпаку, таму што ніколі далёка не адлятаў ад гэтых мясцін.



1. Чаму Шпак вырашыў ляцець у вырай?
2. З якой просьбай звярнуўся Верабей да свайго суседа?
3. Пра што думаў Верабей, калі жыў зімою ў чужой хатцы? Ці ўхваляеце вы яго думкі? Чаму?
4. Што вы даведаліся пра жыццё Вераб'я і Шпака з іх гутаркі?
5. Які адказ даў Шпак Вераб'ю наконт свайго вяртання на радзіму? Як вы гэта разумееце?

6. Чаму Верабей не дужа паверыў адказу Шпака?
7. У якіх радках заключана асноўная думка твора? Прачытайце іх.



1. Падзяліце казку «Шпак і Верабей» на сэнсавыя часткі.
2. Да кожнай часткі падбярыце загалоўкі.
3. Падрабязна перакажыце адно аднаму змест гэтага твора.

## Прыказкі

Няма смачнейшай вадзіцы, як з роднай крыніцы.

Усякай птушцы сваё гняздо міла.

## Загадка




На бярозе над шпакоўняй
З радасцю вясновай
Працалюб — пяюн шыкоўны —
Свішча адмыслова.

*Міхась Пазнякоў.*



**Ні двара́ ні кала́** — нічога няма.
**Зямля́нка** — крытае паглыбленне ў зямлі, выкапанае для жылля.

## СКАРЫНКА

*Рыго́р Бо́хан*

Вунь як скарынку
Хлапчук падфутболіў...
Хлеба ж хапае,
Капейкі — цана.
Сэрца старога
Сціскаецца болем:
Скупа адважыла
Грамы вайна.

Не, не забыў ён
Часіны галоднай.
Вёска... А ў ёй —
Ні двара ні кала.
Плакала маці
Ў зямлянцы халоднай —
Хоць бы скарынка
Для дзетак была.




1. Які ўчынак хлопчыка балюча закрануў старога чалавека?
2. Якія думкі ўзніклі ў яго пра жыццё сучасных людзей?
3. Што ўспомніў стары са свайго маленства? Прачытайце адпаведныя радкі з тэксту.
4. Як вы разумееце сэнс сказа

   *Скупа адважыла*
   *Грамы вайна*?

5. Чаму людзі ў гады вайны і пасля яе жылі ў зямлянках?
6. Навошта Рыгор Бохан расказаў чытачам пра гэты выпадак?
7. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша.



**Пале́так** — участак поля, які выкарыстоўваецца пад пасевы.
**Зні́чка** — падаючая зорка.

## ВАСІЛЁК

*Авяр'ян Дзяржынскі*



Стаіць,
Выглядаючы
З жыта,
Як зорачка-знічка
Здалёк,
Што ўпала
Іскрынкай
З блакіту,
Палеткаў краса —
Васілёк.

Калі расцвітае
Цуд гэты,
На полі
Яшчэ гарачэй,
Буяе,
Квітнеецца лета

І фарбы прыроды —
Ярчэй.

Стаіць,
Паглядае з пагорка,
Як зорка
Аднекуль здалёк,
Часцінка
Любімай старонкі,
Часцінка зямлі —
Васілёк.



1. З чым Авяр’ян Дзеружынскі параўноўвае васілёк? Чаму? Адказ падмацуйце адпаведнымі словамі з верша.
2. Чаму паэт лічыць, што менавіта васілёк з’яўляецца красой палеткаў?
3. Якія радкі сведчаць пра прыгажосць палёў? Прачытайце.
4. Якія словы дапамаглі паэту ажывіць кветку, надзяліць яе чалавечымі рысамі? Прачытайце.
5. У якіх радках аўтар выказаў асноўную думку твора?
6. Падрыхтуйце выразнае чытанне верша.



**Адве́чны** — які існуе з даўніх часоў.
**Каляі́на** — паглыбленне, след на дарозе ад колаў.
**Заго́н** — агароджанае пад адкрытым небам месца для жывёлы.

## НЯМА ПРЫГАЖЭЙ

*Артур Вольскі*

Высозныя сосны
адвечнага бору —
пад самае сонца,
пад самыя зоры.
Зубры
ў гушчары
пратапталі
сцяжынкі
туды,
дзе ніводнай
няма каляіны.
Маліны
даспелыя
просяцца ў жмені,
грыбы — у кашы́,
бы ў загоне алені.



*Уладзімір Масленікаў.* Над Нёманам

Вітаюць нас
птушкі і дрэвы гасцінна...
Ну дзе яшчэ знойдзеш
такія мясціны?
Усім на зямлі
я давесці бяруся:
няма прыгажэй
ад маёй Беларусі!




1. Якімі вобразамі захапляецца аўтар верша? Пералічыце іх.
2. Што цікавае даведаліся вы з жыцця зуброў? Падмацуйце свой адказ тэкстам.
3. Якія радкі сведчаць пра багацце беларускіх лясоў? Прачытайце іх.
4. З кім параўноўвае паэт грыбы? Чаму?
5. Якія радкі верша можна лічыць самымі галоўнымі? Пра што яны сведчаць?
6. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша.
7. Разгледзьце рэпрадукцыю карціны беларускага мастака Уладзіміра Масленікава «Над Нёманам». Якія радкі з верша Артура Вольскага «Няма прыгажэй» найбольш падыходзяць да гэтай карціны? Чаму?



**Скронь** — бакавая частка галавы ад вуха да лба.

## НА ПЛОШЧЫ ПЕРАМОГІ

*Ніна Галіноўская*



З дзядулем на Плошчы
Моўчкі стаім.
І думае кожны
Аб нечым сваім.
Тужліва трапеча
Вечны агонь.
У дзеда ўздрыгнула
Злёгку далонь.
Відаць, ён прыпомніў
Далёкіх сяброў,
Што з фронту ніколі
Не прыйдуць дамоў...

І кідае водбліск
Дзядулю на скронь,
Здаецца, не гэты —
Ваенны агонь.
Шапчу я паціху:
— Дзядуля, зірні,
Як быццам трапечацца
Сцяг у агні.
А дзед у адказ мне:
— Паклон наш зямны
Ўсім, хто дамоў
Не вярнуўся з вайны.



1. Дзе знаходзяцца ўнукі з дзедам? Што вы ведаеце пра плошчу Перамогі?
2. Чаму дзед з унукамі прыйшлі на гэта святое месца?
3. Што сведчыць пра тое, што ўнукі шмат ведаюць з ваеннага жыцця свайго дзядулі? Прачытайце адпаведныя радкі.
4. Што ўвасабляе сабой Вечны агонь?
5. У якіх радках заключана асноўная думка?
6. Падрыхтуйце выразнае чытанне верша.

# КРОПЕЛЬКА

Казка

*Алена Кобец-Філімонава*

Жыла-была дажджавая Кропелька. Яна нястомна працавала. Ка́пне з хмары на зямлю. Напоіць яе. А потым выпарыцца і зноў у паветра ўзляціць. Збяруцца такія кропелькі ў адно воблака. Калі іх стане вельмі многа, воблака цямнее ад цяжа́ру, ператвараецца ў хмару — і ўсе кропелькі, не ўтрымаўшыся, па́даюць уніз праліўным дажджом.

Аднойчы Кропелька не паспела даляцець да зямлі: яе падхапіў Паўночны Вецер. Пачаў ён насвістваць пра незвычайную казачную краіну, з якой прыляцеў. Пачаў упрошваць Кропельку кінуць родны кут і паляцець разам з ім. Згадзілася Кропелька.

Тады Паўночны Вецер сарваў з бярозы лісцік і панёс на ім Кропельку ў далёкі край.

Прыляцела Кропелька. І што ж?

Убачыла яна шэрае, халоднае неба. І такое ж халоднае сонца. І такую ж халодную, заснежаную зямлю. Пачала Кропелька замярзаць. Яшчэ крыху — і стала б яна ледзяшом.

Спалохалася Кропелька, што загіне. І пачала прасіць Паўночны Вецер аднесці яе назад на радзіму.



Зжаліўся Паўночны Вецер. Аднёс яе.

Кропелька не магла дачакацца, калі прызямліцца бярозавы лісцік. Яна скацілася з яго на родную цёплую зямлю гарачай слязой, каб ніколі больш не расставацца.



1. Чаму пісьменніца назвала Кропельку нястомнай працаўніцай? Падмацуйце свой адказ адпаведнымі радкамі з твора.
2. Як утвараюцца дажджавыя хмары?

3. Якім чынам Кропелька апынулася ў далёкім краі?
4. Ці спадабаўся ёй чужы край? Чаму? Прачытайце адпаведны ўрывак з казкі.
5. Чаму Паўночны Вецер вярнуў Кропельку на яе радзіму?
6. Як вы разумееце сэнс выразу *скацілася гарачай слязой*?
7. Чаму вучыць нас гэта казка?
8. Якая з прыказак адпавядае тэме твора?
   - *Усюды добра, а дома лепей.*
   - *Працаваць не любіш — чалавекам не будзеш.*
   - *Сам добры — людзі добрыя.*



1. Падзяліце твор на часткі згодна з планам.

П л а н

1. Кропелька нястомна працавала.
2. Паўночны Вецер панёс Кропельку ў далёкі край.
3. Пачала Кропелька замярзаць.
4. Яна скацілася гарачай слязой.

2. Падрабязна перакажыце змест казкі адно аднаму.



**Сці́плая** (хата) — якая нічым не вылучаецца, простая, звычайная.

## РОДНАЯ МОВА

*Міхась Пазнякоў*

У горадзе,
між ніў жытнёвых,
У важным доме,
сціплай хаце
Не забывайце
роднай мовы —
У нас адна яна,
як маці.



Помнік роднай мове, ў (у нескладоваму).
Горад Полацк.

Каб свет чароўнай прыгажосці
Нас ні на момант
не пакінуў,
Шануйце мову
не як госцю,
А як матулю,
гаспадыню.



1. Да каго звяртаецца Міхась Пазнякоў у вершы «Родная мова»?
2. Пра якую мову вядзе аўтар гаворку?
3. З кім паэт параўноўвае беларускую мову? Чаму?
4. Чаму патрэбна шанаваць родную мову? Падмацуйце адказ радкамі з верша. Як вы разумееце іх сэнс?
5. У якіх сказах выказана асноўная думка твора? Прачытайце іх.

## Правер свае дасягненні па тэме «З любоўю да роднага краю»

***Ведаю...***

1. З якіх твораў наступныя радкі?
   а) «Усім на зямлі

я давесці бяруся:
няма прыгажэй
ад маёй Беларусі!»;

б) «Шануйце мову
не як госцю,
А як матулю,
гаспадыню»;

в) «Паклон наш зямны
Ўсім, хто дамоў
Не вярнуўся з вайны»;

г) «Але ў кожнай птушкі ёсць родны край, — адказаў Шпак. — Там, дзе ты вырас, дзе выраслі твае дзеці. І кожная птушка, перамагаючы ўсе цяжкасці, вяртаецца дадому».

2. У якіх творах пісьменнікі сцвярджаюць думку, што ...

а) трэба беражліва адносіцца да хлеба;
б) кветачка васілёк уяўляе сабой нашу Радзіму Беларусь;
в) трэба шанаваць беларускую мову;
г) не трэба пакідаць родную зямлю: яна для нас як маці?

3. Суаднясіце назвы твораў з прозвішчамі аўтараў гэтых твораў.

а) *Артур Вольскі*
б) *Расціслаў Бензярук*
в) *Міхась Пазнякоў*
г) *Алена Кобец-Філімонава*

1) «Родная мова»;
2) «Кропелька»;
3) «Няма прыгажэй»;
4) «Шпак і Верабей».

4. Да якіх твораў зроблены гэтыя малюнкі?







***Разумею, магу растлумачыць...***

1. Што такое родны край? Радзіма?

2. Чаму наша Радзіма мае назву Беларусь?

3. Чаму Верабей з казкі Расціслава Бензерука не дужа верыў у любоў да роднага краю?

4. Назавіце кветку, птушку і звера, якія ўвасабляюць сабой нашу Радзіму.

5. Чаму Артур Вольскі ў вершы «Няма прыгажэй» лічыць Беларусь самай дарагой і прыгожай?

6. Навошта людзі паставілі помнікі і абеліскі героям і ахвярам Вялікай Айчыннай вайны?

***Умею...***

1. Падрабязна пераказаць змест казкі Алены Кобец-Філімонавай «Кропелька».

2. Выразна чытаць вершы Ніны Галіноўскай «На плошчы Перамогі» і Артура Вольскага «Няма прыгажэй».

3. Чытаць па ролях казку Расціслава Бензерука «Шпак і Верабей».

4. Суаднесці загаловак твора з яго тэмай.




5. Скласці прыказкі.

а) міла | Усякай | гняздо | птушцы | сваё

б) вадзіцы, | крыніцы | Няма | як | з роднай | смачнейшай

в) а дома | Усюды | лепей | добра,

# МАЛЮНКІ ЛЕТА



**Мы пазнаёмімся** з творамі пра летнія змены ў прыродзе, працу і адпачынак летам.

**Мы будзем вучыцца:**

- дзяліць апавяданні на сэнсавыя часткі;
- падрабязна пераказваць змест твораў згодна з планам.

**Мы навучымся:**

- знаходзіць апісанне карцін летняй прыроды;
- вызначаць тэму і асноўную думку твораў.



**Ве́тразь** — парус.
**Сусве́т** — зямны шар; Зямля з усім, што існуе на ёй.
**Арбі́та** — шлях, па якім рухаецца нябеснае цела (напрыклад, штучны спадарожнік або касмічны карабель).

## З ТАБОЮ, КНІГА ДОБРАЯ

*Эдзі Агняцвет*

Я добрую кнігу,
Як свята, люблю.
Яна асвятляе
Людзей і зямлю.

На кожнай старонцы
Адкрыю сакрэт:
Там ветразь пад сонцам,
Таемны сусвет.

*З табою, кніга добрая,*
*Ідзём у новы век.*
*Ты — мужная і шчодрая,*
*Як добры чалавек.*

Калі падрастае
Адважны герой,

Ён прагна чытае,
Сябруе з табой.

Імклівы, трывожны
Расце будаўнік,
І жыць ён не можа
Без песень і кніг.

*З табою, кніга добрая,*
*Ідзём у новы век.*
*Ты — мужная і шчодрая,*
*Як добры чалавек.*



Помнік кнізе
ў горадзе
Таганрозе
(Расія)

Бяруць касманаўты
Любімы свой твор —
Ад роднае хаты
Да знойдзеных зор.

Каб там, на арбіце,
І кнігі былі.
Вы кнігу любіце,
Сябры, на зямлі!

*З табою, кніга добрая,*
*Ідзём у новы век.*
*Ты — мужная і шчодрая,*
*Як добры чалавек!*




1. За што Эдзі Агняцвет любіць кнігу? Прачытайце адпаведныя радкі з твора.
2. Як вы разумееце выраз *кніга асвятляе людзей і зямлю*?
3. Чаму аўтар гаворыць, што кніга ўтрымлівае сакрэты?
4. Без чаго не могуць пражыць ні будаўнікі, ні касманаўты? Падмацуйце адказ радкамі з твора.
5. З якой мэтай касманаўты бяруць з сабой любімыя творы ў космас?
6. Як Эдзі Агняцвет называе кнігу?
7. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання.



Першы касманаўт з Беларусі Пётр Клімук, калі ляцеў другі раз у космас (1975 г.), узяў з сабою невялічкі кішэнны зборнічак вершаў Якуба Коласа. У час наведвання музея ў Смольні (Стаўбцоўскі раён Мінскай вобласці) касманаўт пакінуў наступныя словы: «Там, у прасторах Сусвету, асаблівым сэнсам напаўняюцца радкі “Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы...”».



**Вы́ган** — месца каля вёскі, дзе пасецца жывёла.
**Пука́тыя** (вочы) — вы́пучаныя.

## КАЗАЧНАЯ ЦАРЭЎНА

*Міхась Вышынскі*

Алік доўга стаяў ля акна.

Дзве вялікія — ледзь не на ўсё неба — хмары сплывалі за раку. Дождж адразу аціх, ярка засвяціла сонейка. Алік выскачыў на вуліцу. Скрозь пеніліся, са звонам плылі ручаі і ручаінкі.

— Гэ-гой! — радасна загойкаў Алік і з падскокам пабег па самай шырокай ручаіне. На выгане, праз які ішла вуліца, чуліся галасы. Там ужо сабраліся ўсе яго сябры-першакласнікі. Яны цесным гуртам стаялі на сцежцы — штосьці разглядалі на зямлі, махалі дубцамі, крычалі.

«Што ў іх там такое?» — падумаў Алік і кінуўся да сяброў.



— Не чапайце яе! — зазвінеў раптам тонкі галасок. — Яна добрая... Яна зачараваная царэўна, во!

Пасярод хлапечага гурту стаяла дзяўчынка. Бялявая, у зялёнай сукенцы. Алік яе ведаў. Гэта была Алёнка. Яна ўчора прыехала да дзядзькі з горада. Каля Алёнчыных ног сядзела вялікая шэрая жаба і жаласна міргала пукатымі вачыма.

— Яна... зачараваная? — недаверліва пераглянуліся хлапчукі і апусцілі свае дубцы.

— Ага, — сказала Алёнка. — Я чытала.

Алік раптам успомніў казку, у якой злая чараўніца ператварыла прыгожую царэўну ў жабу.

— Яе трэба ў сад занесці, — сказала Алёнка. — Мой дзядзька казаў, што ад іх сад чысцее...

— Давай я панясу, — падышоў да дзяўчынкі Алік.

Сябры пабеглі да ракі, а Алік паклаў жабу ў шапку. Жаба была халодная і мокрая.

У садзе хлопчык асцярожна паклаў шапку на зямлю. Жаба скокнула пад яблыню ў высокую траву. Пасля быццам уздыхнула і ўтаропілася на дзяцей вялікімі вачыма.

— Пайшлі, Алік, — сказала Алёнка, — хай яна адна тут гуляе.

— Давай будзем дружыць, Алёнка, — сказаў Алік.

— Давай, — згадзілася Алёнка.

Праз нейкі час дзеці ўспомнілі пра сваю жабу. Агледзелі ўсю траву пад яблыняй, але там нічога не было.

— Уцякла, — уздыхнула Алёнка.

— А я ведаю куды, — хітра глянуў на яе Алік.

— Ну скажы!

— У сваю казку. Зноў стала царэўнай.



1. У якую пару года сабраліся дзеці? Па якіх прыкметах вы здагадаліся? Прачытайце.
2. Чым былі зацікаўлены сябры-першакласнікі на выгане?
3. Хто такая Алёнка? Што вы пра яе даведаліся?
4. Адкуль дзеці ведалі пра казачную царэўну?
5. Чаму Алік і Алёнка вырашылі занесці жабу ў сад? Як можна ацаніць іх учынак?
6. Чаму Алік прапанаваў Алёнцы дружыць з ім? Як гэта характарызуе хлопчыка?
7. Каго нагадала вам Алёнка? Чаму?
8. Якая асноўная думка гэтага апавядання?



Падрыхтуйце падрабязны пераказ тэксту па плане.

П л а н

1. «Дождж адразу аціх...».
2. «На выгане... чуліся галасы».
3. «— Не чапайце яе! — зазвінеў раптам тонкі галасок».
4. «— Давай я панясу, — прапанаваў Алік».
5. «Дзеці ўспомнілі пра сваю жабу».



**Румя́ніцца** — чырванець.
**Ба́віцца** — праводзіць дзе-небудзь час.

## ЛЕТНЯЯ РАНІЦА

*Авяр'ян Дзержынскі*



Летняя раніца
Сонцам румяніцца,
Летняя раніца
Пахне расой.
Летняя раніца
Спрытна ўвіхаецца
На сенакосе з касой.

Летняя раніца
Распачынаецца
Шумам і гулам
Машын.







Летняя раніца
З вудаю бавіцца
На берагах азярын.

Летняя раніца
Як затуманіцца —
Спаць не дае грыбнікам.
Летняя раніца
Ветла ўсміхаецца
Людзям,
Іх рупным рукам.



1. Што вы ўяўляеце, калі чытаеце радкі гэтага верша?
2. Ці падабаецца паэту летняя раніца? Чаму вы так думаеце?
3. Якімі словамі Авяр'ян Дзеружынскі ажыўляе летнюю раніцу, надае ёй чалавечыя рысы? Прачытайце.
4. Ці даводзілася вам назіраць у прыродзе тое, пра што піша аўтар? Дзе? Раскажыце.
5. Якая асноўная думка гэтага верша?
6. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання. Падумайце, у якім тэмпе трэба чытаць верш — павольна ці хутка.



**Бляша́нае** (вядзерца) — зробленае з бляхі (тонкага ліста жалеза).
**Нала́савацца ўво́лю** — наесціся смачнага да поўнага задавальнення.

## ЯГАДЫ

*Нічы́пар Пару́каў*

Ніна і Зіна — неразлучныя сяброўкі: куды адна, туды і другая. Яны аднагодкі. І ростам дзяўчынкі амаль аднолькавыя, хіба толькі Зіна крыху таўсцейшая. Апранаюцца яны таксама аднолькава. Варта Ніне паказацца на вуліцы ў сіняй з гарошынкамі сукенцы, як неўзабаве і Зіна выбягае са свайго дома ў такім жа ўбранні. Нават коскі сяброўкі заплятаюць аднолькава. У Ніны яны светлыя, як шаўкавісты лён, а ў Зіны — чорныя.

Толькі вось характары ў дзяўчынак розныя. Памяркуйце самі.

Вёска Сасноўка, дзе жывуць Ніна і Зіна, знаходзіцца каля самага лесу. І неяк улетку сяброўкі дамовіліся схадзіць у суніцы.

Узялі бляшаныя вядзерцы і падаліся на знаёмую палянку.

Спачатку дзяўчынкі рвалі ягады ў рот, а потым, калі наласаваліся ўволю, пачалі збіраць у вядзерцы.

Ніна хутка назбірала поўнае вядзерца ягад і кажа:

— Пара ўжо дадому ісці.

А Зіна адказвае:

— Як жа мне ісці дадому, калі ў мяне яшчэ і паўвядзерца няма?

— Давай я табе дапамагу, — прапанавала Ніна і пачала збіраць суніцы ў Зініна вядзерца.



Прайшло некалькі хвілін, Зіна і гаворыць Ніне:

— У мяне нешта галава забалела.

— І моцна?

— Моцна. Мабыць, ад гарачыні...

Ніна глянула на Зіну і занепакоілася: твар у сяброўкі быў стомлены, сумны.

— Ну дык ідзі пасядзі крыху ў цяньку вунь пад той бярозкай, а я адна буду збіраць.

Неўзабаве вядзерца Зіны таксама было поўнае спелых сакавітых ягад, і дзяўчынкі разам пайшлі дадому.

Па дарозе Зіна адставала і ўсё скардзілася, што яна вельмі стамілася і што вядзерца дужа балюча рэжа ёй руку.

— Давай я паднясу і тваё, — сказала Ніна і ўзяла ў абедзве рукі па вядзерцу.

Ішлі дзяўчынкі не спяшаючыся. Недалёка ад вёскі Ніна спатыкнулася аб тоўсты корань і рассыпала ўсе ягады са свайго вядзерца.

— Дапамажы сабраць, — папрасіла яна сяброўку.

— Ты сама рассыпала, сама і збірай, — бойка адказала Зіна.

Яна схапіла сваё вядзерца, поўнае спелых суніц, і хуценька пабегла дадому.




1. Якімі паказаны Ніна і Зіна ў пачатку апавядання? Пацвердзіце словамі з твора.
2. Чаму Ніна назбірала поўнае вядзерца ягад, а Зіна толькі палову вядзерца?
3. Як апраўдвалася Зіна за малую колькасць ягад у сваім вядзерцы? Як гэта характарызуе дзяўчынку?
4. Чаму Ніна паверыла сяброўцы і стала дапамагаць ёй? Ці спадабалася вам Ніна?
5. Як вы ацэньваеце ўчынкі Зіны? Ці хацелі б вы сябраваць з ёй?
6. Ці з'яўляюцца дзяўчынкі сапраўднымі сяброўкамі? Чаму?
7. Якія з прыказак падыходзяць да зместу твора?
   - *Птушка моцная крыламі, а чалавек — дружбай.*
   - *Той не можа быць другам, хто ў бядзе абыдзе кругам.*
   - *Не за сталом таварышы пазнаюцца — яны пазнаюцца ў бядзе.*



Падзяліце апавяданне «Ягады» на часткі згодна з планам і падрабязна перакажыце змест адно аднаму.

П л а н

1. «Ніна і Зіна — неразлучныя сяброўкі».
2. «Неяк улетку сяброўкі дамовіліся схадзіць у суніцы».
3. «Ніна хутка назбірала поўнае вядзерца ягад».
4. «— У мяне нешта галава забалела».
5. «Па дарозе Зіна адставала і ўсё скардзілася...».
6. «Ніна спатыкнулася».

## Прыказка

Летні дзень год корміць.

## Загадка

На балоце лясным
Між куп'я агніста
Сонейкам жывым
Зіхацяць маністы.

*Міхась Пазнякоў.*



# СЛЁЗЫ ЛІЛЕІ

*Фама́ Рама́шка*

Цёплы ліпеньскі дзень. Свеціць яркае сонейка. Святланка прыйшла на рэчку. Падабаецца ёй сядзець на беразе. Назіраць, як кружаць над беласнежнымі лілеямі сінякрылыя стракозы.

— На вось мой падарунак, — падышоў да яе незнаёмы хлопчык і падаў некалькі лілей.

— Не трэба было іх ірваць! — сказала дзяўчынка.

— Знайшла што шкадаваць, — сказаў хлопчык. — Вунь колькі іх у рэчцы!

— Без іх жа стане зусім сумна і мне, і стракозам. Ды і сонейку таксама.

— Як, сонейку? — здзівіўся хлопчык.

Зразумела Святланка, што хлопчык нічога не ведае пра рачных прыгажунь.

— Калі свеціць сонейка, цвітуць і лілеі. Дораць усім сваю прыгажосць. І матылькам, і стракозам. Усім, хто бывае тут, —

растлумачвала дзяўчынка. — А пойдзе дождж — яны згортваюць свае белыя пялёсткі і знікаюць пад вадой. Чакаюць, пакуль сонейка не з'явіцца зноў. Сумна тады на рэчцы...

Слухаў хлопчык дзяўчынку, а побач на траве ляжалі завялыя лілеі. З белых пялёсткаў сцякалі чыстыя кропелькі рачной вады. Хлопчыку здавалася, што гэта слёзы лілеі.



1. Дзе любіла пасядзець Святланка ў цёплы ліпеньскі дзень? Прачытайце адпаведныя радкі. Пра што сведчыць такі адпачынак дзяўчынкі?
2. Ці можна апраўдаць малога хлопчыка за сарваныя лілеі? Чаму?
3. Як Святланка патлумачыла малому паводзіны лілей у сонечныя і дажджлівыя дні?
4. Што можна сказаць пра саму дзяўчынку?
5. Ці прызнаў хлопчык сваю віну?
6. Растлумачце сэнс назвы твора «Слёзы лілеі».
7. Падрыхтуйцеся да падрабязнага пераказу апавядання.



**Ко́лішні** — які мае адносіны да мінулага, меў месца ў мінулым.
**Прасе́ка** — ачышчаная ад дрэў палаcа ў лесе.
**Трылі́снік** — так называецца ліст, які складаецца з трох злучаных лісточкаў.
**Вяршкі́** — тлусты верхні слой на малацэ; смятана.

## СУНІЦЫ

*Уладзімір Ягоўдзік*

З дзяцінства помніцца маміна загадка:

*Сядзіць паненка ў чырвонай сукенцы, хто яе ўбачыць — той і паклоніцца.*

Ах, як пахнуць, як хутка растаюць у роце салодкія суніцы! Не ведаю я смачнейшага ласунку на свеце. Кожная ягадка нібыта чароўная кропля, што ўвабрала ў сябе і фарбы, і пахі, і нават птушыныя спевы на пачатку лета.

З ягаднай сям'і суніцы паспяваюць першыя: яны высыпаюць у канцы чэрвеня. Аднак не трэба па іх спяшацца, як па гры-

бы, недаспаўшы, на раннім досвітку. Бяруць суніцы, калі сплыве туман і прападзе раса́. Інакш яны памнуцца ў кошыку, разлезуцца на ка́шу. Ну а найлепшыя сунічнікі — каля дарог лясных і сцежак, на колішніх прасеках і светлых палянах. Словам, там, дзе шаты верхалесся не замінаюць вясёлым сонечным промням мілаваць і грэць зямлю, кожную травінку і карэньчык.

Збіраць жа суніцы — свята, а не работа. Яны самі просяцца ў далонь, але ўмеюць і спрытна хавацца ў траве ці пад сваімі зубчатымі трыліснікамі. Таму наперад раю: убачыўшы першую ягадку, адразу пакла-



ніся, а тады шукай яе сябровак. І не тупай, як мядзведзь, не тапчы лішне сунічнік.

Суніцы не толькі смаката, яны таксама лекі. Шмат якія хваробы дзякуючы ім адольвалі ў даўніну нашы дзяды і прадзеды. Лепшае сведчанне таму — народная прымаўка:

*Суніцы спажываеш — хваробы з сэрца выганяеш.*

Суніцы сушаць, з іх ціснуць сок і вараць варэнне. Адна яго лыжачка зімою зараз жа нагадае лета, высокі чэрвеньскі поўдзень з пчаліным гудам і сухім гаркавым пахам кветак. І ўсё-такі самыя смачныя і карысныя суніцы — свежыя, з кубкам малака або вяршкоў. Не лянуйцеся збіраць іх, ешце па ягадцы і цэлымі жменямі, тады ніякая хвароба не прычэпіцца да вас.



1. Як аўтар адносіцца да суніц? Прачытайце адпаведныя радкі.
2. З чым параўноўвае пісьменнік ягадку суніцы? Чаму? Прачытайце.

3. Дзе звычайна растуць гэтыя ягады? Прачытайце.
4. У які час трэба збіраць суніцы? Чаму?
5. Як трэба паводзіць сябе ў лесе, калі ўбачыш першую сунічку? Чаму?
6. Чаму суніцы — гэта яшчэ і лекавыя ягады? Патлумачце.
7. Якімі словамі Уладзімір Ягоўдзік ажыўляе суніцы, надзяляе іх чалавечымі рысамі? Зачытайце адпаведныя радкі.
8. Якая асноўная думка гэтага твора?

## Правер свае дасягненні па тэме «Малюнкі лета»

***Ведаю...***

1. З якіх твораў узяты наступныя карціны лета?

а) «Дзве вялікія — ледзь не на ўсё неба — хмары сплывалі за раку. Дождж адразу аціх, ярка засвяціла сонейка. Алік выскачыў на вуліцу. Скрозь пеніліся, са звонам плылі ручаі і ручаінкі»;

б) «— Калі свеціць сонейка, цвітуць і лілеі. Дораць усім сваю прыгажосць. І матылькам, і стракозам. Усім, хто бывае тут, — растлумачвала дзяўчынка. — А пойдзе дождж — яны згортваюць свае белыя пялёсткі і знікаюць пад вадой. Чакаюць, пакуль сонейка не з'явіцца зноў. Сумна тады на рэчцы...»;

в) «Ну а найлепшыя сунічнікі — каля дарог лясных і сцежак, на колішніх прасеках і светлых палянах. Словам, там, дзе шаты верхалесся не замінаюць вясёлым сонечным промням мілаваць і грэць зямлю, кожную травінку і карэньчык»;

г) «Летняя раніца
Сонцам румяніцца,
Летняя раніца
Пахне расой».

2. Пазнайце персанажа па яго выказванні:

а) «Знайшла што шкадаваць. Вунь колькі іх у рэчцы!»;

б) «Ты сама рассыпала, сама і збірай...»;

в) «Яе трэба ў сад занесці. Мой дзядзька казаў, што ад іх сад чысцее...».

3. У якіх творах аўтар сцвярджае думку, што...

а) чытаць кнігі — гэта займальная і карысная справа. Кнігі фарміруюць характар чалавека, узбагачаюць яго духоўна, з'яўляюцца вернымі спадарожнікамі жыцця на зямлі і ў космасе;

б) трэба беражліва ставіцца да кветак. Не рваць кветкі, асабліва тыя, якія занесены ў Чырвоную кнігу прыроды. Кветкі ўпрыгожваюць жыццё чалавеку;

в) не за сталом таварышы пазнаюцца — яны пазнаюцца ў бядзе;

г) летняя раніца не толькі прыгожая карціна прыроды. Лета — важная пара года, якая можа карміць людзей цэлы год?

4. Хто з'яўляецца аўтарам твора, з якога ўзяты ўрывак?

а) «Ах, як пахнуць, як хутка растаюць у роце салодкія суніцы! Не ведаю я смачнейшага ласунку на свеце. Кожная ягадка нібыта чароўная кропля, што ўвабрала ў сябе і фарбы, і пахі, і нават птушыныя спевы на пачатку лета»;

б) «Я добрую кнігу,
Як свята, люблю.
Яна асвятляе
Людзей і зямлю»;

в) «Слухаў хлопчык дзяўчынку, а побач на траве ляжалі завялыя лілеі. З белых пялёсткаў сцякалі чыстыя кропелькі рачной вады. Хлопчыку здавалася, што гэта слёзы лілеі».

## *Разумею, магу растлумачыць...*

1. Чаму лета для многіх людзей з'яўляецца любімай і важнай парой года?

2. Для чаго чалавеку трэба старацца кожны дзень чытаць кнігі і асабліва ў час летніх канікул?

3. Як вы разумееце сэнс прыказкі «Летні дзень год корміць»?

4. Чаму Нічыпар Парукаў назваў сваё апавяданне «Ягады»?

*Умею...*

1. Падрабязна пераказаць змест апавяданняў Міхася Вышынскага «Казачная царэўна» і Нічыпара Парукава «Ягады».

2. Выразна чытаць вершы «З табою, кніга добрая» Эдзі Агняцвет і «Летняя раніца» Авяр'яна Дзеружынскага.

3. Аднавіць прыказкі па пачатку.

- *Птушка моцная крыламі...*
- *Той не можа быць другам...*
- *Не за сталом таварышы пазнаюцца...*

...хто ў бядзе абыдзе кругам;
...яны пазнаюцца ў бядзе;
...а чалавек — дружбай.

# Змест

## Пяшчотны свет сям'і



## Урокі працавітасці



## Усмешка вясны

## З любоўю да роднага краю



## Малюнкі лета

(Назва і нумар установы агульнай сярэдняй адукацыі)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан вучэбнага дапаможніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне вучэбным дапаможнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |


Вучэбнае выданне

**Жуковіч** Мікалай Васільевіч

**ЛІТАРАТУРНАЕ ЧЫТАННЕ**

Вучэбны дапаможнік для 2 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 2

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*. Рэдактар *Л. Ф. Леўкіна*. Мастацкі рэдактар *Л. М. Рудакоўская*. Мастакі *М. М. Рудакоўская, Л. М. Рудакоўская*. Карэктары *К. В. Шобік, Д. Р. Лосік, Л. Г. Ганчарэнка*

Падпісана ў друк 13.12.2016. Фармат 70×90/16. Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 10,53. Ул.-выд. арк. 4,1 + 0,4 форз. Тыраж 17 620 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/263 ад 02.04.2014. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа». Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/3 ад 04.10.2013. Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск



***Сяргей Трухан.*** Лета



***Аляксандр Хадзюкоў.*** Бярозавы гай



## ПАМЯТКА «ЯК СТВАРЫЦЬ МАЛЮНАК СЛОВАМІ ДА ТВОРА»

1. Уважліва прачытайце ўвесь твор або адну закончаную яго частку.
2. Уявіце малюнак у думках.
3. Падбярыце словы, якія дапамогуць стварыць малюнак.
4. Раскажыце пра створаны малюнак сябрам або настаўніку.

